# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 10 (3330) Год LXV Беласток, 08 сакавік 2020 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




Анна Франкоўская →3



Марыя Адзіевіч →8



— Маняць нас грашыма, але людзі апасаюцца, — заявіла Раіса Бэнэдычук

# Жыхары супраць торфаздабычы

Жыхары Гародчына, Градочна, Ляхоў і суседніх вёсак заснавалі Грамадскі камітэт аховы тарфяных лугоў, напісалі петыцыю і сабралі пад ёй каля 4 тысяч подпісаў. Падпісанты супраціўляюцца планаванай торфаздабычы на лугах паміж згаданымі вёскамі Нарваўскай гміны і Кленікамі Чыжоўскай гміны. Мясцовыя жыхары заклікаюць войтаў і радных Нарваўскай і Чыжоўскай гмін не даваць згоды на адкрыццё побач іх вёсак тарфянога кар'ера, пераконваюць у шкоднасці здабычы торфу для навакольнага асяроддзя і сельскагаспадарчай прадукцыі. Частку лугоў ад мясцовых уласнікаў узяла ў арэнду суполка «Вокас» з Лосіц, якая рыхтуецца адкрыць кар'ер і здабываць торф на 170 гектарах лугоў. Суполка «Вокас» выступіла да ўлад Чыжоўскай і Нарваўскай гмін з просьбай змяніць план умоў і накірункаў прасторавага добраўпарадкавання гмін. У выніку такой змены лугі замест сельскагаспадарчага выкарыстання маглі б быць прызначаны для здабычы торфу. Мясцовыя жыхары хочуць блакіраваць падрыхтоўку да адкрыцця кар'ера. Лічаць, што торфаздабыча прывядзе да паніжэння ўзроўню вады ў глебе і ў выніку да выдатнага абмежавання сельскагаспадарчай прадукцыі, а нават яе спынення ў непасрэдным суседстве з кар'ерам.

— Калі б збудавалі тут капальню торфу, адмоўныя паслядоўнасці ад яе маглі быць вельмі вялікія. Мы супраць здабычы торфу на лугах распалажаных непадалёк ад нашых вёсак і палёў. Заснавалі мы Грамадскі камітэт аховы тарфяных лугоў і сабралі ў нашых сёлах подпісы пад петыцыяй супраць будовы капальні торфу, якая накіравана да войтаў і радных Нарваўскай і Чыжоўскай гмін, — сказала Раіса Бэнэдычук з Ляхоў.

У збор подпісаў па інтэрнэце ангажавалася нефармальная група прыхільнікаў Падляшша. Раіса Бэнэдычук удакладніла, што колькасць подпісаў пад петыцыяй набліжаецца да 4 тысяч.

— Грамадскі камітэт аховы тарфяных лугоў паўстаў з мэтай процідзейнічаць будове капальні торфу на лугах паміж вёскамі Гародчына, Градочна, Ляхі і Кленікі. Нам самае важнае, што нельга было б вярнуць да ранейшага стану знішчанае навакольнае асяроддзе ў выніку здабычы торфу. Мы сабралі многа подпісаў супраць здабычы торфу. Подпісы на папяровых лістоўках паставілі больш за 300 мясцовых жыхароў. Людзі апасаюцца адмоўных паслядоўнасцей здабычы торфу. У акцыю супраціву ангажуюцца не толькі мясцовыя жыхары, але і асобы, якія купілі ў нас дамы з-за нашай незвычайнай прыроды, — заявіла радная Нарваўскай гміны Анна Яканюк з Градочна.

Мясцовае насельніцтва падтрымліваюць арганізацыі і асобы, якія ангажуюцца ў ахову асяроддзя.

— Нашу петыцыю адрасуем войтам і радным Нарваўскай і Чыжоўскай гмін. Мы таксама ў кантакце з прафесарам Інстытута батанікі Варшаўскага ўніверсітэта Віктарам Катоўскім, спецыялістам па пытаннях асушвання і наваднення лугоў. Хочам, каб нашы гмінныя ўлады арганізавалі спатканне навукоўцам.

Прафесар Віктар Катоўскі ўпэўнены, што торфаздабыча прычыніцца да паніжэння ўзроўню вады ў навакollі планаванай інвестыцыі. Прапануе ён на тарфяніках нейтральныя для навакольнага асяроддзя віды гаспадарчай дзейнасці, напрыклад вырошчванне чароту, рагозу ці вярбы.

Жыхары Гародчына, Градочна, Ляхоў і суседніх вёсак яшчэ ў канцы снежня мінулага года спаткаліся ў Гародчыне з прадстаўнікамі суполкі «Вокас» з Лосіц, якая ўжо ўзяла ў арэнду дзясяткі гектараў лугоў у Нарваўскай і Чыжоўскай гмінах. У сустрэчы ўдзельнічаў войт Нарваўскай гміны Андрэй Пляскові, які заявіў, што разам з раднымі будуць патрабаваць новых аналізаў уздзеяння торфаздабычы на прыроднае асяроддзе. У Гародчыне земляробы адмоўна паставіліся да планаў будовы капальні торфу і выдатная іх большасць прагаласавала супраць інвестыцыі каля іх вёсак.

— Мы ў Гародчына хацелі запрасіць прадстаўнікоў суполкі «Вокас» з Лосіц і прафесара Віктара Катоўскага. Аднак не змаглі мы дамовіцца на прыезд іх у адзін дзень. Чакаем сустрэчы з прафесарам Віктарам Катоўскім, на якую запросім не толькі нашых радных, але і радных Чыжоўскай гміны. Спадзяемся, што яны прыедуць, каб даведацца аб шкоднасці здабычы торфу для сельскай гаспадаркі і навакольнага асяроддзя. Частка лугоў, якія ўзяла ў арэнду суполка «Вокас», распалажаны ў Кленіках Чыжоўскай гміны. Паколькі яны мяжуюць з лугамі Нарваўскай гміны, капальня торфу вельмі адмоўна ўздзейнічала б на палі жыхароў нашай гміны, — сказала Раіса Бэнэдычук. — Рада Чыжоўскай гміны прыняла ўжо інтэнцыйную пастанову наконт змены плана ўмоў і накірункаў прасторавага добраўпарадкавання гміны і пачалася там працэдура з мэтай выключэння лугоў з сельскагаспадарчага выкарыстання, каб можна было на іх весці здабычу торфу. Гэтая справа яшчэ адкрытая і мы разлічваем, што можа прафесар Віктар Катоўскі пераканае радных Чыжоўскай гміны не даваць згоды на змену выкарыстання лугоў вёскі Кленікі.

Старшыня суполкі «Вокас» Дарыюш Вайцешук у час сустрэчы ў Гародчыне стараўся пераканаць сабраных, што здабыча торфу не была б шкоднай. Прадпрыемства «Вокас» дзейнічае як сямейная суполка і займаецца здабычай торфу, крэйды, пяску і жвіру ў некалькіх ваяводствах. Аднак члены Грамадскага камітэта аховы тарфяных лугоў пераканаsuccessfully, што дзякуючы вадзе ў торфе не высыхаюць навакольныя палі і баяцца, што пасля эксплуатацыі радовішча торфу глеба надта абсушыцца.

Суполка «Вокас» у Нарваўскай і Чыжоўскай гмінах намерваецца здабываць торф на плошчы да 170 гектараў лугоў. Пасля платы як за куплю, суполка бярэ лугі ў арэнду на 30-гадовы тэрмін. Пасля здабычы торфу і рэкультывацыі лугі мелі б вярнуцца да ўласнікаў, як зямля пад вадаёмам.

— Вада з пясчаных палёў сплыла б у кар'ер і ў вадаём, які паўстаў бы на выбраным па торфе месцы. Тады нашы лугі і суседнія палі засыхалі б, — заявіла Раіса Бэнэдычук з Ляхоў, якая гадуе 40 кароў і цялят.

Мясцовыя сяляне апасаюцца, што паніжаны ўзровень вады можа спрычыніцца да спынення сельскагаспадарчай прадукцыі. У Ляхах, распалажаных прыблізна ў паўтара кіламетра ад планаванай інвестыцыі, чатырох жывёлаводаў гадуе звыш 100 кароў, якія з вясны да восені днём пасвяцца на лугах. У суседнім Гародчыне гадуецца каля 150 кароў. Жывёлаводы асабліва апасаюцца засухі як паслядоўнасці здабычы торфу. Для транспарту торфу суполка з Лосіц карысталася б цяжкімі грузавымі машынамі вялікіх памераў. Людзі апасаюцца, што ўжо моцна знішчаныя дарогі не вытрымаюць перамяшчэння па іх грузавікоў з торфам.

— У час эксплуатацыі радовішча моцна знішчаецца асяроддзе і няма ўжо магчымасці вярнуць яго да папярэдняга стану. У нас павінны разгортвацца вытворчасць здаровага харчавання і турызм. Ужо і цяпер у нас ахоўваюцца рэдкія віды кветак і птушак. Нашы лугі і драўляная архітэктура прыцягваюць турыстаў і мы павінны рабіць стаўку на агратурызм і сельскагаспадарчае выкарыстанне палёў, а не на шкодную для асяроддзя торфаздабычу, — сказала на лузе Раіса Бэнэдычук, які адмовілася здаць у арэнду суполцы «Вокас». — Пасуседску ўласнік аддаў луг у арэнду на трыццаць гадоў. Далей ёсць таксама лугі, якія гэтая суполка ўзяла ў арэнду з намерам здабычы на іх торфу. Аднак большасць уласнікаў лугоў, перш за ўсё жыхары Гародчына, не аддалі іх у арэнду, хаця суполка «Вокас» прапануе што і раз большую плату. Маняць нас грашыма, але людзі таксама апасаюцца, задумваюцца, што было б, калі б суполка пасля здабычы торфу вярнула ім або ім спадкаемцам не лугі, а толькі частку вадаёма, — заявіла ў канцы размовы Раіса Бэнэдычук.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**



# Фальшывыя ахвяры

Чалавецтва не можа ўладкаваць жыццё, каб не кідацца ў скрайнасці. Многія стагоддзі еўрапейскія народы жылі ў патрыярхальным грамадстве з выразнай дамінацыяй мужчын. За дваццатае стагоддзе традыцыйны ўклад жыцця змяніўся кардынальна, а новае, дваццаць першае, прынесла новыя паняцці, разуменні і выклікі. Цяпер нават цяжка ўсвядоміць, што, прыкладам, у Швейцарыі жанчыны атрымалі выбарчае права толькі ў 1971 годзе, а ў канстытуцыйнай манархіі Ліхтэнштэйн яшчэ пазней — ажно ў 1984 годзе. Маладыя людзі могуць нават не паверыць гэтым фактам. Жанчыны даўно ўвайшлі ў вялікі бізнес, сусветную палітыку, амаль усе прафесіі. Іх прысутнасць ва ўсіх сферах грамадства — ад урадаў і парламентаў — да навукі і літаратуры, даўно не выклікае здзіўлення і стала паўсядзённай звыкласцю і нормай. Нават у більярдным снукеры палова арбітраў — гэта жанчыны-рэферы.

Але з некаторага часу, цяжка зараз знайсці нейкі канкрэтны пункт адліку, знайшліся ідэолагі, якія стварылі штучную гендарную тэорыю, што становіцца дамінантнай у развітых еўрапейскіх і заакіянскіх грамадствах. Асноўны яе стрыжань — гэта тое, што жанчыны ўсяляк падвяргаюцца дыскрымінацыі і гэта трэба выпраўляць. І нават там, дзе дэмакратыя ўжо забяспечыла жанчынам усе правы, абсалютна роўныя мужчынскім, „гендарная паліцыя” знойдзе праблемы. Напрыдумлялі і розных тэрмінаў, якія па сутнасці высмактаныя з пальца — „сексізм”, „харасмент” і таму падобнае. Цяпер на тэму адносін паміж мужчынамі і жанчынамі нават нельга расказваць анекдоты, незалежна ад іх зместу. На цябе адразу навешаюць ярлык і звінавацяць у сексізме. Мужчыны не маюць ужо права на заляцанні, кампліменты, віншаванні, праяву знакаў увагі да жанчын — усё гэта можа быць расцэнена і часта расцэньваецца як гвалтоўнае дамагальніцтва.

У цяперашнім заходнім грамадстве — маю на ўвазе еўрапейскую супольнасць, а таксама ЗША і Канаду, хутка найбольшай дыскрымінацыі будуць падвяргацца менавіта мужчыны-традыцыяналісты з „няправільным” мысленнем у гендарным пытанні. Для праваабаронцаў гэта стварае новыя выклікі, паколькі механізмаў абароны сваёй прыроды і тоеснасці ў мужчын застаецца ўсё менш. Мяркуючы па ўсім, судовая сістэма таксама эвалюцыянавала і кіруецца не столькі законам, колькі фальшывай паліткарэктнасцю. Па сутнасці, неўзабаве для абвінавачвання і асуджэння будзе дастаткова толькі заявы псеўдапацярпелых.

Вельмі хутка гэтая мода выкрывання дамагальніцтва і вышукванне сексізму прыйшла і да нас. Не так даўно адна гендарная актывістка з Беларусі (прозвішча не памятаю, ды гэта і не важна) ужо зладзіла сапраўдны алярм у сацсетах, публічна напісаўшы, як на супольнай кватэрнай вечарынцы, дзе прысутнічала больш дзесяці (!) чалавек, яе дамагаўся іншы грамадскі актывіст. Той нібыта ўзяў „ахвяру” за калена. У каментарыях пайшлі словы захаплення „пацярпелай”, яе мужнасцю і публічнай адвагай. Усчалася „дыскусія”, у якой з боку абаронцаў жаночай некранальнасці на апанентаў вылілася столькі бруду і зняваг, што не перадаць. Скажу толькі, што такіх мацюкоў, якіх ужывалі ярыя феміністкі, я не чуў нават у савецкім войску. Думаю, што дзеянні таго небаракі, які на вечарынцы ўзяўся не за тое калена, выглядалі куды нявінней, чым рэакцыя радыкальных феміністак. Цікава, што якраз у той час іншая жанчына, грамадская актывістка, знаходзілася ў жудасных умовах зняволення за акцыю супраць расейскай экспансіі, але ёй яны спачування неяк ніяк не выказалі.

Мэты жанчын, нібыта пацярпелых ад мужчынскага дамагальніцтва, розныя. Адны проста хочуць урваць грошай ад заможных былых палюбоўнікаў, іншыя праз гады пераканалі самі сябе, што ўсё было зусім не па згодзе і хочуць адпомсціць за ўяўны гвалт, трэція шукаюць сабе такога роду рэкламы, кажучы цяперашняй мовай, імкнуцца „хайпануць”.

А больш за ўсё шкада тых жанчын, якія сапраўды пацярпелі ад сексуальнага гвалту. Ніхто ж не кажа, што такой праблемы няма. Мярзотнікі і нягоднікі, якія выкарыстоўваюць сваё службовае ці сацыяльнае становішча, на гэтым свеце не пераваліся. Толькі за шматлікімі скандальнымі і фальшывымі ахвярамі, насамрэч пацярпелым жанчынам зараз многія проста не будуць верыць.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Не рабуйце «Бядронку»!

Разгуляўся каранавірус. Цяпер невядома, ці ягонае ДНК ужо расшыфравана. Але калі так, то выраб вакцыны, якая зможа спыніць яго пандэмічны прагрэс, адразу ж падкосіць. Ніхто не будзе пытацца пра яе цану, лічыць кошт яе вытворчасці ці, магчыма, паўсюднай вакцынацыі. Ніхто не недаацэньвае гэты вірус, хаця да гэтага часу колькасць яго ахвяр складае толькі долю штогадовых выпадкаў заражэння звычайным грыпам (і яго шматлікімі штамамі), для якіх зімовы перыяд — сапраўдны час смяротнага ўраджаю. Тут узнікае пытанне, накіраванае да прыхільнікаў антывакцынальнага руху, да бацькоў, якія выступаюць супраць прафілактычнай вакцынацыі сваіх дзяцей ад небяспечных інфекцыйных захворванняў, напрыклад, супраць грыпу — ці таксама пазбавяць яны права сваіх дзяцей на здароўе і нават на жыццё ў выпадку магчымай пандэміі каранавіруса? Я стаўлю бутэль добрага віна перад заплесенелым коркам, што не. Прэч пойдуць іх тэорыі зомбы, здаровы розум да іх вернецца. Але ці гэта не будзе запозна? Грыпу, адзёру ці поліяміэліту нельга недаацэньваць. У роўнай ступені, як і каранавіруса. Што адрознівае яго ад іншых вірусаў? У асноўным нішто. Усе яны аднолькава таксічныя і гатовыя мутаваць. Усе яны памнажаюцца адной і той жа энергіяй. Усе яны могуць стаць смяртэльнымі. Аднак мы ставімся да некаторых з абыякавасцю ці нават пагардай. Гэта «старыя» і ментальна прыручаныя намі бацылы. Толькі ў выпадку «новай» мы б'ем трывогу. На самой справе, яны мала чым адрозніваюцца. Проста мы пазнаёміліся з некаторымі больш, з іншымі менш. Навукоўцы даўно атрымалі поўнае ўяўленне пра асноўныя ДНК найбольш вядомых інфекцыйных захворванняў. Нават калі з'явіцца іх новы і часта больш заганны штам, ім значна лягчэй змагацца з яго мутаванай формай, чым з новым тыпам віруса. І вось каранавірус. Перад тым, як навукова-даследчыя цэнтры не расшыфруюць яго ДНК, што дазволіць ім распрацаваць разбуральную для яго вакцыну, ён будзе паступова распаўсюджвацца і паслядоўна выклікаць эпідэміялагічныя абвесткі ў іншых, цяпер свабодных ад яго краінах. Каб толькі не выклікаў ён панікі. І тая ўжо размнажаецца ў цэню здаровага розуму і не менш эфектыўна, чым сапраўдны вірус. Спажывай для яе з'яўляюцца ненадзейныя СМІ. Істэрычны тон павышаецца перабольшанымі паведамленнямі аб пустых крамах і недахопе харчоў.

А г-праўда! Залішняя прапанова тавараў такая, што іх дастаткова для дзясятка хваль панічных пакупак. З-за недахопу ў аптэках вядомых масак для твару — дарэчы, меўных прафілактычна прадухіліць распаўсюджванне віруса — раздаецца агульны енк роспачы. У маёй вёсцы арганізаваная група суседзяў ужо планує гандлёвы рэйд на «Бядронку» ў Гайнаўцы. Пры нагодзе і ў аптэку ў Нарву. Аднак яшчэ стрымліваюцца, не вызначыўшыся, ці варта замяніць маску шалікам або анучкай намочанай спіртам. „А што будзе, калі паліцыя спыніць мяне і праверыць алкатэстарам?” — нехта спытае цвяроза. Ну, заклікаю да больш цвярозага мыслення.

Пакуль што доля пацверджаных інфекцый ва ўсім свеце ў параўнанні з гібеллю людзей ставіць каранавірус значна далей ад грыпу. Бо менавіта яе хваробатворчая бактэрыя займае сумнавядомую пальму першынства ў сусветным рэйтынгу самых небяспечных захворванняў сучаснага свету. З кожным годам ён нападае і забівае значна больш людзей (колькасць заражаных ім людзей дасягае мільёнаў, а колькасць гібелі дзясяткаў тысяч), чым каранавірус зрабіў дагэтуль. Але ў глабальным статыстычным вымярэнні гэта саступае іншай смяротнай пагрозе — дарожна-транспартным здарэнням. Іх наступства — гібель дзясяткаў тысяч і мільёны параненых людзей. Чамусьці з-за гэтага ніхто не панікуе, не абірае паліц крам, не забараняе выраб аўтамабіляў альбо іх штодзённае карыстанне. На сённяшні дзень цяжка прадбачыць, якой будзе гісторыя каранавіруса. Як СНІД, ВРВІ, «свіны памор» ці «птушыны грып» будуць выцеснены ў агульнай свядомасці па-за зону баявой гатоўнасці, як падзеі, якія сапраўды працяглыя ў часе, але на самой справе выпадковыя, як відаць з перспектывы мінулага, ці толькі пакажа сваю ўрадную натуру, параўнальную з «чорнай чумой», якая патрабуе працягу сваёй гісторыі ў невядомай будучыні. Гэта пакажа сам час. Але пакінем «Бядронку» ў спакоі. Не рабуйце яе тавар, ні пасобку, ні калектыўна. З разуменнем чытайце паведамленні СМІ. Давайце клапаціцца пра гігіену. Давайце мыць рукі.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Зіма без зімы

Ну што ж, зіма ў гэтым годзе ў нашай частцы свету, відаць, дзесьці прыснула і, здаецца, плаўна перайшла ў халоднае прадвесне, у адрозненні ад палітычнай гарачкі ў Польшчы ў сувязі з майскімі, прэзідэнцкімі выбарамі. Тут слупок тэмпературы з кожным днём расце ад узаемазнішчальных абвінавачванняў і выцягваных афёр. Значыць, да самых выбараў будзем мець таўкатню, якая будзе даставаць нас кожнага дня. Таму дзеля спакою і распачатага акурат Вялікага посту варта проста адмовіцца ад чытання, аглядання і слухання навін. Вядома, у сённяшнім свеце ад іх не ўцячэш, але пастарацца выцішыцца заўсёды можна, для прыкладу назіраючы за прыродай. Апошнія выхадныя правёў я ў пушчанскім, родным доме, дзе з задзёртай у неба галавой угледаўся за лятучымі, крыклівымі ключамі дзікіх гусей і жураўлёў. Сапраўды, прыгажосць адвечнага, прыроднага цыкла проста радуе чалавечыя душы і сэрцы. У пэўны момант нават я ўявіў сабе, што праз хвіліну магу пабачыць і буслоў. Здаецца, што на Сувальшчыне некаторыя ўжо паспелі паслухаць іхняе клекатанне. У такой сітуацыі, мабыць, птушкам стане непатрэбным адлятаць у гарачую Афрыку, а па прывычцы перазімаваць дзесьці ў паўднёвых краінах Еўропы некаторыя пэўна і рызыкнуць застацца тут у нас, на месцы. „Да дабра гэта не вядзе” — так анамаліі з надвор'ем каментуюць пушчанскія старажылы і пачынаюць ізноў баяцца веснавых маразоў, якія спляжылі ў мінулым годзе квітненне садоў. А на пытанні пра тое, якое будзе лета, адказваюць згодна: „Адзін Бог толькі ведае”. Па прыродных прыкметах нічога зараз не прадбачыш. Застаецца толькі ўспамінаць марозныя зімы, цёплыя вёсны, гарачае лета, восеньскія колеры прыгажосці лесу. Наслухаўшыся ўсіх гэтых расказаў пра страчаную кліматычную нармальнасць, вырашыў я праверыць, што пішуць на гэты конт навукоўцы. Аказваецца, што цяперашняя зіма 2019/2020 (лічана як перыяд ад пачатку снежня да канца лютага), была ў Польшчы на 4,12 градуса цяплейшай ад сярэдніх зім у 1981-2010 гадах і на 3,64 градуса цяплейшай ад сярэднестатыстычнай зімовых тэмператур у 1991-2020 гадах. У Маскве анамаліі яшчэ большыя. Упершыню ў гісторыі назіранняў сярэдняя трох найхаладнейшых месяцаў гэтай зімы ёсць плюсавая. Нягледзячы на пацяпленне клімату, зімы ў сталіцы Расіі былі заўсёды халодныя. Сярэдняя тэмпература апошніх трыццаці зім гэта мінус 5,5 градуса, а ў перыядзе 1981-2010 — мінус 6,1. А тут у зімовым трымесяцы снежань-люты 2019/2020 дасягнула 0,2 вышэй нуля. Гэта значыць больш на 5,7 градуса, чымсьці сярэдняя з апошніх трыццаці зім. У Маскве рэкордна цёплай да гэтай пары была зіма 1961 года з тэмпературай мінус 2,8 градуса.

Найхаладнейшай зімой дваццатага стагоддзя была зіма ў час Другой сусветнай вайны ў 1942 годзе, калі сярэдняя тэмпература склала мінус 15 градусаў. Халаднейшай была толькі за ўсю гісторыю зіма 1893 года з сярэдняй мінус 16,8 градуса. У Польшчы (сярэдняя пералічаная на тэрыторыю дзяржавы ў сённяшніх межах), статыстычныя зімы 1991-2020 гадоў цяплейшыя на 1,9 градуса ад зім другой паловы дзевятнаццатага стагоддзя. Зіма 2019/2020 была аж на 5,53 градуса цяплейшай ад зім 1851-1900 гадоў.

Апошняя зіма зусім ашчадзіла нам высокіх маразоў. Найніжэйшая змераная тэмпертура ў зімовым сезоне 2019/2020 была ў польскім полюсе холаду, значыць, у Сувалках і было гэта ледзь мінус 6,6 градуса. Гэта быў мінімум снежня, а ў студзені тэмпература ў горадзе не паніжалася за мінус 3,4 градуса. У палове дваццатага студзеня сярэдняя студзеня ў гэтым горадзе складала каля мінус 5 градусаў. Як цікавінка выглядае факт, што ніжэйшую тэмпературу чымсьці ў студзені 2020 года была змераная ў Сувалках у маі 2019 года, калі было зафіксавана мінус 3,6 градуса. Характэрнай з'явай гэтага зімовага перыяду з'яўляецца яе бясснежнасць. Снегу было столькі, як гаворыцца ў прыказцы, што кот наплакаў. А што будзе далей у будучыні з надвор'ем ніхто толкам не ведае.

**Яўген ВАПА**

Настаўнікі роднай мовы

# Наша беларускае настаўніцкае асяроддзе малое і мы ведаем адзін аднаго

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Я заўсёды любіла беларускую мову. Тады падумала: чаму мне не вучыць яе іншых?

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Спадзяюся, што кожны настаўнік беларускай мовы аддany сваёй працы, гэта ўзор для вучняў.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Так, супрацоўнічаю. Наша беларускае настаўніцкае асяроддзе малое і мы ведаем адзін аднаго. Калі ёсць праблемы, служым парадай і дапамогай.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Усе арганізацыі, якія ладзяць мерапрыемствы і дапамагаюць сваімі дзеяннямі падтрымаць беларускасць на Падляшшы, пазітыўна ўплываюць на працэс навучання беларускай мовы.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— ...

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— „Пазнай Беларусь"

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Бацькі ахвотна дапамагаюць мне і нашым дзеткам, калі ёсць такая патрэба.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для Вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Навучанне на прынцыпе добраахвотнасці — нялёгкая справа.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Усяк бывае, на ўроках вядома, працуем усе, часам хутчэй, а часам з'яўляюцца складанасці і патрабуем больш часу.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу?**

— Так.

**— Ці паводле Вас падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Не, на жаль, недапасаваныя яны да сучаснасці.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— Люблю «Літарынку» Ларысы Бурылы.

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Вельмі люблю паэзію Ніны Мацяш. Так, гэта мая любімая аўтарка.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**



**Анна ФРАНКОЎСКАЯ** нарадзілася і дарастала ў Гайнаўцы. Закончыла беларускую філалогію на Універсітэце ў Беластоку. Працавала ў школах у Арэшкаве і ПШ № 1 у Гайнаўцы. Зараз настаўніца беларускай мовы ў ПШ з ДНБМ у Орлі і ПШ № 4 у Гайнаўцы. Вольны час праводзіць з сям'ёй і ездзіць на ровары. Жыве ў Гайнаўцы.



Анна Франкоўская з дачушкай Насцяй

— Апошнім часам чытаю шмат зборнікаў з дзіцячай паэзіяй, падбіраю вершы на дэкламатарскі конкурс.

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Мае дзеці з ахвотай чытаюць «Ніву».

**— Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Напэўна „Басовішча". На жаль, у прошлым годзе было апошняе.

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі пабеларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Так.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Бывала і так.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Недахоп часу на сямейнае жыццё, працу і адпачынак.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Пакуль што хіба за коратка працую, але спадзяюся, што будуць.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Так, атрымала.

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Думка, што будзе лепш.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Калі атрымліваеш ад вучняў паштоўку з пажаданнямі на беларускай мове.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— Пагоня.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Не думаю пра гэта, але кожны раз, калі іду на ўрок беларускай мовы, хачу перадаць сваім вучням любоў да беларускага народа і нашай культуры.

Апытальнік правяла
**Ганна КАНДРАЦЮК**

# Вялікае свята беларускай песні



■ «Маланка»

**Марафон беларускай песні пракацїўся пад канец студзеня і ў лютым па Беласточчыне. Агульнапольскі Фестываль беларускай песні — адна з важнейшых і найбуйнейшых культурных падзей у асяроддзі беларускай меншасці. Яго арганізатарам з'яўляецца Беларускае грамадска-культурнае таварыства (БГКТ), найстарэйшая арганізацыя беларускай меншасці ў Польшчы. У першым конкурсе беларускай песні, які прайшоў у 1970 годзе, прынялі ўдзел толькі шэсць калектываў. А сёння гэта адно з найбольш значных і важных культурных мерапрыемстваў таксама і для ўсіх жыхароў Падляшша.**



■ «Гармонь» з Ласінкі

Як падкрэслівае старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі, фестываль гэта адказ на культурныя патрэбы беларусаў Падляшша:

— У 1970 годзе мы распачалі гэтую ідэю, каб культываваць добрую беларускую песню сярод беларускага народа. І да гэтай пары трымаемся гэтага прынцыпу, і рангу фестывалю, якому ўжо 27 гадоў.

Сёлета 16 лютага ў зале філармоніі па вуліцы Падлеснай выступіла 81 т.зв. выканаўчая адзінка (г.зн. калектывы і асобныя выканаўцы, якія выступалі ў розных канфігурацыях), гэта значыць каля 500 выканаўцаў. Спеўныя змаганні былі падзелены на два туры, паколькі сёлета беларускія песні выконвала перад вялікай аўдыторыяй крыху больш выканаўцаў, чым год таму.

— Фестываль і ўсе культурныя ініцыятывы, якія мы арганізуем, служаць захаванню і развіццю беларускай культуры ў Польшчы. Такім чынам мы працуем дзеля беларускай нацыянальнай меншасці, якая ўсё яшчэ жыве і захоўвае сваю нацыянальную культуру ў паўночна-ўсходнім куточку Польшчы, каб перадаць яе маладым пакаленням. Пасля цэнтральнага конкурсу, у якім прымаюць удзел лепшыя выканаўцы з пяці рэгіянальных прэлімінарыяў (у Сямятычах, Гайнаўцы, Орлі, Дубрpremove-Беластоцкай і Беластоку), выступаюць на гала-канцэрце ў самай прэстыжнай зале рэгіёна — Еўрапейскага культурнага цэнтра Падляшскай оперы і філармоніі па вуліцы Адэскай, — адзначыў Васіль Сегень. — Мерапрыемства арганізуе БГКТ. Раней патрабаваннем рэгламенту было прадстаўленне песень, напісаных беларускімі кампазітарамі, і тэксты песні павінны былі быць арыгінальныя на гэтай мове. Ён адзначыў, што ў цяперашні час правілы з'яўляюцца больш ліберальнымі, паколькі неабходнай умовай з'яўляецца тэкст (песня) на беларускай мове, але прымальныя таксама варыянты арыгінальнага дыялекту, які існуе ў грамадзе беларускай меншасці ў Польшчы, асабліва той, якая пражывае ў паўднёва-ўсходняй частцы Падляшскага ваяводства. Назіраючы змены, якія адбываліся прынамсі за апошнія некалькі гадоў, відаць, што нашы мастакі павышаюць узровень сваіх прэзентацый. Несумненна, гэта таксама дзякуючы гасцям з Беларусі, якіх мы запрашаем і якія «падцягваюць» нашых артыстаў. Другая рэч — гэта моладзь, якая шматліка прысутнічае на нашым фестывалі. Сёння моладзь надзвычай цяжка прыцягнуць у культуру. Маем такі час, калі ўсё бяжыць вельмі хутка. Ёсць і іншыя спакусы для маладога пакалення. Тым больш цешыць, што ёсць такія асобы, якія спяваюць, якія вельмі прафесійна падрыхтаваны, што ўзровень іх высокі. Гэта пацвярджае форму беларускай песні і дазваляе нам з надзеяй глядзець у будучыню, што гэтая песня будзе працягвацца і будзе гучаць на Падляшшы доўгія гады. Я лічу, што фестываль найбольш з мерапрыемстваў, якія мы арганізуем, паказвае, што ёсць заплечча, ёсць моладзь, звязаная з беларускай культурай. Гэта нас цешыць, будуе на будучыню, што за намі, старэйшымі, ідзе таксама і моладзь, якая якраз у беларускай песні актыўная, чаго я, на жаль, не магу сказаць, калі гаворка ідзе генеральна пра мову. Мова ў беларускай меншасці занікае, таксама ў дыялектнай версіі, у выніку працэсу паланізацыі. Але наш фестываль, як і падобны конкурс для дзяцей, паказваюць, што ёсць жаданне спяваць па-беларуску!

— Гэта вельмі важная падзея, таму што тут сустракаюцца лепшыя выканаўцы і лепшыя калектывы. Гэта гонар спяваць тут. Людзі прымаюць беларускую песню з задавальненнем, многія прыходзяць яе паслухаць. Беларускія песні вясёлыя, жывыя, шчырыя і часам кранальныя. Яны распавядаюць пра каханне, пра прыроду, — сказала **Кацярына Ціханюк** са Збуча.

— Быць у ліку лепшых — гэта вялікае вылучэнне. Тым больш што наш калектыў здабыў такі гонар упершыню. Калектыў „Навіна" існуе ўжо 14 гадоў. Мы спяваем розныя песні на розных мовах. Выступаем на шмат якіх мерапрыемствах, — сказала **Галена Датчук** з ансамбля „Навіна" з Машчоны-Каралеўскай.

— Эмоцыі самавітыя, але, каб дайсці да гэтага этапу, трэба было шмат папрацаваць і зрабіць шмат рэпетыцый. Гэта вялікі высілак, — падкрэсліла **Ганна Лук'янюк** з хору «Крыніца» ў Беластоку.

Хары, ансамблі, салісты, дуэты, трыо — на сцэне Оперы і філармоніі выступілі тыя, хто быў абраны спачатку ў раённых, а потым і ў цэнтральных адборах. Усе згодна адзначылі, што гэта было вялікае вылучэнне, адрозненне і гонар для іх, а таксама ўвянчанне шматгадовай працы. Амаль трыццаць прэзентацый, больш за тры гадзіны спеваў і танцаў і сотні гледачоў — так выглядаў **гала-канцэрт** 27-га выпуску Фестывалю беларускай песні. 20 лютага 2020 г. на сцэну Падляшскай оперы і філармоніі выйшлі лепшыя з лепшых, гэта значыць пераможцы ваяводскіх і цэнтральнага адбораў, а таксама Дзяржаўны акадэмічны ансамбль танца Беларусі з Мінска і ансамбль народнай музыкі Беларусі «Бяседа». Як штогод можна было пачуць розныя стылі, народныя і сучасныя песні. З'явіліся і новыя калектывы, як «Салятыюм» з Дубровы-Беластоцкай (пад кіраўніцтвам Клаўдзіі Сулімы). Са сцэны былі пахвалены і кіраўнікі ансамбляў, якія падрыхтавалі калектывы і салістаў — Марта Грэдаль-Іванюк з ГДК у Гайнаўцы (Ізабела Карчэўская, студыя песні ГДК, Мар'я Савіцкая), Анна Пятроўская (сямейнае трыо «Трыяда»), Багуслава Карчэўская і Юрка Астапчук («Белыя крылы» з Міхалова і Гарадка, Наталля Алексяюк з Міхалова), Мікалай Мяжэнны («Цаглінкі» са Старога Ляўкова), Галена Датчук («Навіна» з Машчоны-Каралеўскай), Ліля Жылінская і Інэса Кур'янава («Экзіт» з Крынак), Міраслава Ціханюк (хор «Загадка» з Супраслі), Галена Шчыгол («Аморфас» з Сямятыч), Марыя Пашко («Гармонь» з Ласінкі), Віта Кацюбайла (ансамбль «Світанак» з Беластока — ужо чацвёрты раз гран-пры), Гражына Валкавыцкая-Тамашук (хор «Крыніца» з Беластока), Сяргей Лукашук («Маланка» з Бельска), Віктар Маланчык (Кацярына Салавянюк і Янка Філіповіч), Адрыяна Бяліцкая-Скаўронская (Тацццяна Юхімовіч з Рыбалаў і Аляксандра Закшэўская з Міхалова). Захапілі калектыў «Немаральная прапанова» з Беластока (трэці раз у конкурсе), «Сувенір» (кіраўнік Андрэй Жамойда; з песнямі на словы і музыку Янкі Хохі з Тыльвіцы ў Міхалоўскай міне — «Хуліганы»), «АС» з Беластока (кіраўнік Славамір Трафімюк). Добра, што прагучалі ў гэты раз са сцэны інфармацыі пра аўтараў вядомых песень, якія становяцца гімнамі Беластоцкай зямлі, як Алеся Баршчэўскага, і часам жартаўлівыя і паэтычныя матывы з жыцця мясцовасцей, адкуль прыехалі калектывы. Вельмі спраўна і лёгка вялі канцэрт Аня Бабік і Радаслаў Дамброўскі, перапляляючы выступленні спевакоў з танцамі Ансамбля танца Беларусі, а на канец — канцэртам беларускай народнай музыкі з Леанідам Захлеўным, а на завяршэнне — хвалюючым выкананнем паланэза «Развітанне з айчынай»...

На сёлетнім гала-канцэрце сярод запрошаных гасцей былі духоўнікі, беларускія дыпламаты і самаўрадаўцы, прадстаўнікі мясцовых улад, дэпутаты Сейма. Пасол РБ у Польшчы Уладзімір Чушаў сказаў, «што Беларусь ганарыцца культурнымі дасягненнямі беларусаў Польшчы (...) Вы — неад'емная частка агульнай беларускай нацыі. Частка нашай любімай Беларусі. Мы падтрымлівалі і будзем падтрымліваць сваіх суайчыннікаў за мяжой».

— Гэта самае важнае, што такія беларускія мерапрыемствы яднаюць людзей, — сказала Анна Радзюкевіч, госць гала-канцэрта, аўтарка і рэдактарка падручнікаў па беларускай літаратуры, геаграфіі і гісторыі ды аб праваслаўі. — Мы адчуваем сябе ў гэтым асяроддзі як у сваім. І самае важнае, што гэтыя песні падтрымліваюць нашу мову, наша пачуццё тоеснасці, калі паўсюль пануе пальшчызна ў штодзённым карыстанні, — дык хаця б песня, як апошняя, трымае нас пры сваім.

Вольга Зданоўская: — Я згэтуль, з нашых кліматаў. І цікаўлюся тым, што наша. Паколькі ведаю і калектывы, і людзей, якія тут выступаюць, таму практычна штогод прымаем удзел у такіх мерапрыемствах, якія так шмат даюць для нашай душы, падтрымліваюць настрой і пачуццё свойскасці ды роднасці з грамадой, з народам.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

# КСАВЕРЫЙ БЯЛЯЎСКІ (1847-1903)



Ксаверый Бялеўскі (1847 — 16 мая 1903)

„Ведайце ж, у жыцці сваім я працаваў не толькі для сябе, але і для ўсіх, хто імкнуўся да ведаў”.

Гэту эпітафію, напісаную па-польску, прачытала я на адным з фрагментаў помніка, які нехта „ўладкаваў” на чужым пахаванні.

Вырашыла для сябе, што чалавек, прах якога знайшоў апошні прытулак на старажытных каталіцкіх могілках у Высокім, быў асобай неардынарнай. Зацікавіўшыся, знайшла звесткі аб ім найперш у артыкуле Аляксандра Валковіча (газета „Заря” ад 25.09.2010 г.), затым у „Слоўніку Камянеччыны”, складзеным у 2011 годзе рэгіянальным краязнаўцам Георгіем Мусевічам.

Даведалася, што, нарадзіўшыся каля горада Седльцы (Польшча) Ксаверый Бяляўскі вывучыўся на агранома ў сельскагаспадарчай акадэміі ў Германіі.

У Высокае яго запрасіла ў 1880 годзе Марыя Патоцкая, якая ў той час жыла ў Высока-Літоўску і мела ва ўласнасці шэсць фальваркаў. Вось тут і разгарнуў сваю дзейнасць (у тым ліку і навуковую) вучоны аграном.

23 гады, праведзеныя Бяляўскім у графскім маёнтку, далі свой плён — гаспадарка неўзабаве стала цэнтрам селекцыйнай работы. Тут была створана эксперыментальная база па вывядзенні новых гатункаў пшаніцы: „Высокалітэўска”, „Генеалагічная чырвоная”, „Генеалагічная белая” і іншыя. Элітнае насенне карысталася вялікім попытам не толькі ў мясцовых гаспадароў.

Слава аб вучоным-селекцыянеры разнеслася далёка. Ужо ў 1888 годзе Бяляўскі быў узнагароджаны Залатым медалём Брусельскай акадэміі навук і абраны яе сапраўдным членам. Прызнаннем поспехаў у культуры гаспадарання зерневых былі высокія ўзнагароды на розных выставах: залатыя медалі ў Харкаве (1887), у Санкт-Пецярбургу (1912), у Парыжы (1889), у Чыкага (1898), Гран-пры ў Парыжы (1900)

Дзякуючы дванаццаціпольнаму севазвароту, а таксама скрыжаванню і адбору, вучоны намнога палепшыў рэпрадукцыю жыта, ячменю і аўсу.

Вішня „Бучамлянка” — таксама прадукт яго вынаходніцтва. Сакавітая, буйная, мясістая, яна і сёння радуе мясцовых жыхароў сваімі гронкамі.

Труну з целам Ксаверыя Бяляўскага ў знак высокай пашаны да яго асобы мужчыны неслі на руках з Агароднік да Высокага (3 км) 17 мая 1903 года.

Тамара ЛАЎРАНЧУК

## Наш пісьманосец

У Чаромсе няма пошты, адно паштовае аддзяленне. Чаромха карыстаецца паштовым індэксам 17-250 Кляшчэлі. Для пісьманосцаў тэрыторыя абслугоўвання разлеглая. Кузаву абслугоўвае малады добрасумленны працаўнік пошты Марк. На працу штодзень даязджае з Чаромхі-Станцыі. Гэта каля дзесяці кіламетраў ад месца пражывання. Кожнае сялэцтва наведвае ён рэгулярна, пастаўляе адрасатам лісты і пасылкі, прымае ад жыхароў заказную пошту. Для мяне, асобы з абмежаваннямі, гэта вялікая дабрадзейнасць. Патэлефаную свайму пісьманосцу і гэты заязджае ў назначаную гадзіну. Ніколі не адказаўся. Аднойчы праваронію ды забыўся заехаць. Затым вярнуўся назад. Не падвёў. За гэта яму вялікае ДЗЯКУЙ! Марк, як сам гаворыць, на пасадзе працуе пятнаццаць гадоў ды абслугоўвае больш за восемсот пяцьдзясят гаспадарак. Часам вынікаюць праблемы і ён сам намагаецца іх вырашыць. Добразычлівасць, добрасумленнасць і спагадлівасць да людзей, усмешка на твары — гэта асноўныя рысы характару пісьманосца кляшчэлеўскай пошты. За гэта яму нізкі палон і падзяка ад жыхароў раёна абслугоўвання. **(УС)**

## Напрадвесні

Натура паскупілася сёлета на суровыя маразы ды снежныя сумёты. Белага пуху не хапіла нават на Каляды, дзеля катання на санках на запускі, ці для гульняў дзеткам. Зімы быццам бы не было. Гэта, разумеецца, у дамашніх гаспадарках значная эканоміка паліва. Прыйшоў сакавік, затым неўзабаве прабудзіцца з зімовай дрымоты прырода. Сонейка падымецца вышэй ды цёплымі праменямі абагрэе флору і фаўну. Дрэвы пакрыюцца зялёнымі лісткамі, ды бела-пурпурным квеценем. Затым час на веснавыя парадкі ў дамашнім агародзе і садку. Я не ў змозе гэтымі справамі заняцца. Старэйшая дачушка Ірэна казала, што сёлета пра ўсё задбае. Я лічу, што і я пакрысе яе выручу. У траўні-чэрвені чакае мяне шасцітыднёвая шпіталізацыя на рэабілітацыйным аддзяленні ў Гайнаўцы. Як скончацца дажджавыя лівні і пацяплее, дык займуся парадкамі на панадворку. Пабялю фруктовыя дрэвы вапнай. Шмат іх у дамашнім садку. Вішні, яблыні, слівы, чарэшня ды грушы патрабуюць догляду. Народная мудрасць напамінае: хто дбае, той мае. У мяне, дзякуй Богу, застаюцца ў запасе дзясяткі слоікаў яблычнага кампоту і розная віду варэння. Сам рабіў запасы на зіму. Пры веснавых парадках не забывайма аб ахове асяроддзя. Заграбленае лісце ды розная віду смецце не ўкідайма ў разведзенае вогнішча адно ў звалку на кампост. Збуцвелыя арганічныя адпады гэта добрая пажыва для фруктовых дрэў. Не затрачвайма затым каштоўнага часу. Бяромся за работу. **(УС)**

## Сентымент да драўляных хат

У вёсцы Старое Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета шмат гадоў існуе фабрыка керамічных будматэрыялаў. Да 2000 года ў гэтым сяле пабудавалі шмат мураваных дамоў. Цяпер ужо не будуюць. Вёска абязлюджваецца. Выехалі адсюль у айчынныя гарады або ў замежныя краіны маладыя працаздольныя ранейшыя тутэйшыя жыхары. Няма каму будаваць хат.

Паабапал асфальтавай вуліцы ў Старым Ляўкове стаяць упярэмешку драўляныя і мураваныя дамы. Найбольш устойлівых драўляных налічваецца больш за дваццаць. Сярод іх ёсць аднаўленыя, прыгожыя, з новай шалёўкай і памаляваныя. Іх ранейшыя ўласнікі паўміралі. Жывуць іх сын або замужняя дачка, якім ужо нікуды выязджаць з роднай вёскі і хаты. Некаторыя дзеці прадалі дамы сваіх бацькоў і пераехалі жыць у горад.

Я помню прозвішчы колішніх жыхароў, драўляныя дамы якіх засталіся і ў іх жывуць наследнікі, між іншым, Садоўскіх, Урбановічаў, Марціновічаў, Харкевічаў, Сухадолаў, Рэентаў, Пташынскіх, Бандарукоў, Барэчкаў, Адамюкоў і Пякарскіх. У двух дамах былі свайго часу прадуктовыя крамы. У адным змяшчалася г.зв. злеўня малака з сепаратарам для перагону малака з мэтай атрымання смятаны), а ў яшчэ адным — клуб прэсы і кніжкі „Рух”. Дзесяць хат разабралі і па іх няма і следу. Зніклі з паверхні зямлі два прыгожыя драўляныя школьныя будынкі і драўляная вясковая святліца. Перад адным школьным будынкам была вялікая прыгожая брама з чатырохскатным дашкам, накрытым гонтам.

Цяпер прыгожа выглядаюць драўляныя дамы, між іншым, Яўгеніі і Юрыя Равінскіх, Ірэны і Славаміра Ігнацюкоў, Ірэны Сухадолы, Яна Сухадолы, Веры і Тадэвуша Сватоў, Лявона Харкевіча, Рыгора Пякарскага, Міраславы Балтрамюк, Яўгеніі Марціновіч і Валянціны Назарук (раней яе бацькоў Канстанціна і Надзеі Рэентаў), Марыі Бандарук і Валянціна Барташука. У іх ёсць вялікі сентымент да драўляных хат, якія пабудавалі іх бацькі. І яшчэ адно, ідзеш вуліцай і вока так і прыцягвае прыгожая драўляная прыхадская плябанія з ганкам. **(яц)**

# Пасёлак Хімічная Фабрыка

Такі пасёлак здаўна існуе ў Гайнаўцы з аднаго боку пры чыгунцы, якая бяжыць у напрамку Семяноўкі Нараўчанскай гміны. Фабрыку я памятаю за шчыльнай агароджай за больш схаваную ад людскога вока за ліставымі і хваёвымі дрэвамі. За браму маглі прайсці рабочыя толькі з пропускамі. Ішла, між іншым, сакрэтная прадукцыя. Пра гэта я даведаўся ад майго дзядзькі Федзі, які там працаваў да самай пенсіі. А што за вытворчасць была, ён мне не сказаў. Было забаронена.

Побач фабрыкі пры вуліцах Хімічная фабрыка, Філіпчука і іншых жылі першнаперш сем'і рабочых, працаваў прыгожы дзіцячы садок. Баракі для жылля былі як баракі, а садок — у вясёлых колерах. І ўсё агароджанае. Каля драўляных будынкаў расло многа дрэў, былі задбаныя кветкавыя агародчыкі ды з агародніна́й, было прыемна і ўтульна. На гэтым пасёлку было шмат прыгожых дзяўчат. Я ў 1962 годзе пазнаёміўся з адной прыгажуняй, калі вучыўся ў гайнаўскім ліцэі. Галіна была з рабочай, каталіцкай сям'і. Мне было цікава, як жывуць людзі ў горадзе. Гэта не тое, што на вёсцы. Бацька Галіны быў, між іншым, музыкантам, іграў на акардэоне, маці працавала ў прадшколлі. Мелі трое дзяцей. Пра дзяцей і дом клапацілася маці. Была гэта ветлівая і сімпатычная жанчына. Да музыкі і спеву гарнулася іх дачка Галіна. Яна вучылася ў Пачатковай школе № 2 у Гайнаўцы і выступала ў хоры. Паказвала мне фотаздымкі свайго ансамбля. Яна, стоячы, грала на акардэоне перад групай моладзі ў вышываных каляровых касцюмах.

Я прыязджаў да Галіны ў нядзелі, бо пасля заканчэння навукі ў сярэдняй школе працаваў я ў школе ў Нарве і вучыўся ў Настаўніцкай студыі ў Беластоку. Мы хадзілі да сябровак Галіны і на летнія танцы на вялікай драўлянай г.зв. пляцоўцы пад клёнамі, ліпамі і дубамі каля Гайнаўскага дома культуры (да яго з пасёлка рукой падаць). Тады ў горадзе было многа моладзі. Галіна звяртала на сябе ўвагу кавалераў. Была прыгожая і мела сваю кампанію. Бывала, што брала акардэон ад музыканта з аркестра і грала для танцуючых.

Цяпер на пасёлку Хімічная фабрыка новыя маставыя вулачак з брусчаткі, прыгожыя крамы — прадуктовая (яна добра забяспечаная таварамі) і кухонная мэблі. Ёсць прыватная прадуктовая крама пры вуліцы Беластоцкай. Зараз няма тае ранейшай фабрыкі. Жыхароў тут усё менш. Моладзі як на лякарства. Адна з вуліц (на ёй быў брук) не мела назвы. На ёй паклалі асфальт і цяпер гэта вуліца Тамары Саланевіч. А Галіна выйшла замуж і ўжо шмат гадоў жыве ў Васількаве каля Беластока. Аднойчы бачыў яе ў Гайнаўцы. (яц)

# Небяспечныя ўхабіны

6 лютага гэтага года ехаў я павятовай дарогай з Нараўкі ў Ахрымы цераз Мінкоўку, Сушчы Барок і Падляўкова. На яе асфальтавай маставой напаткаў небяспечныя выбоіны каля Мінкоўкі, а найбольш іх у Сушчым Барку на выездзе з вёскі ў лес. Ухабіны глыбокія, пагражаюць бяспецы ў дарожным руху.

Гэты сігнал ад ніўскага карэспандэнта накіроўваем дырэктару Праўлення павятовых дарог (ППД) у Гайнаўцы. Дробны рамонт дарогі можна зрабіць пры цяперашнім надвор'і. Хаця на дварэ стаіць люты, але няма снегу і іншых ападкаў. А рамонт жа неабходны. Чым хутчэй, тым лепш.

Варта дадаць, што з-за лёгкай зімы — а то ўжо і апошні яе месяц — ППД мела малыя расходы. А тут патрэба ўсяго жмені г. зв. бітумічнай масы або дэструкту. Спадар дырэктар не скупіцеся. **(яц)**

## СПАЧУВАННІ

Шчырыя словы спачування
**Барбары і Міраславу ПЯКАРСКІМ**
і іх сямейнікам з прычыны напаткаўшага Іх гора – смерці бацькі Рыгора.

**рэдакцыя Нівы і сябры**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


# «Незалежнасць» Янкі Купалы і «Зялёныя дзеці» Вольгі Такарчук!

Беларуская дыктоўка — гэта не толькі праверка граматнасці. Большае значэнне мае інтэлектуальны зрух вакол мовы, клопат за яе прэстыжнасць, прамоцыя. А ў выпадку беларускай мовы — мовы, якая знікае, — гэта клопат патройны!

Ды прыслужыцца ідэі могуць усе, не толькі тыя, што вывучаюць беларускую мову ў школе.

— Я ні аднаго дня не вывучаў беларускай мовы ў школе, — прызнаецца **Дарафей Фіёнік**, вядомы беларускі дзеяч з Бельска-Падляшскага.

Мову вывучаў самастойна, па кніжках, чытаючы «Ніву», размаўляючы з людзьмі. Чаму падняў такі цяжкі выклік? Бо разумеў, што без пісьма немагчыма сур'ёзна існаваць у жыцці грамадства. Сёння таксама прыехаў пісаць дыктоўку, не каб праверыць свае веды, а проста каб падтрымаць вучняў і настаўнікаў заангажаваных у справу.

Цягам апошніх гадоў разам з дзяцьмі беларускую дыктоўку пішуць нашы «віпы». Вось, рэдакцыю «Нівы» прадстаўляла паэтэса і журналістка Міра Лукша. Сярод шаноўных гасцей былі настаўніца Аліна Ваўранюк, музыка Ала Каменская, дыпламат Міхаіл Гольцаў з Генконсульства РБ у Беластоку, журналіст Павел Вошчанка з тэлебачання «Белсат» і згаданы ўжо чалавек-інстытуцыя Дарафей Фіёнік. Другую частку складалі журналісты беларускіх масмедыяў, якія чыталі дыктоўкі для ўдзельнікаў. У ролю лектара ўвасобілася, між іншым, Анна Шайкоўская з Радыё Рацыя. Яна чытала фрагмент публіцыстычнага твора Янкі Купалы «Незалежнасць» для найстарэйшых удзельнікаў. Ды чакаў іх вельмі



Дыктоўку чытае журналіст Міхась Сцепанюк



Мікола Абрамюк, на першым плане

складаны граматычны выклік, наколькі ў гады, калі ўзнік твор, пісалі т.зв. «тарашкевіцай». Як мы пасля даведаліся, некаторыя госці пісалі дыктоўку ў двух варыянтах: тарашкевіцай і наркамаўкай. Пішам пра гэта невыпадкова. У Вікіпедыі, якой зараз карыстаемся ўсе, існуюць два варыянты беларускай мовы, прычым бывае, што інфармацыя падаецца толькі на тарашкевіцы. Варта ведаць пра такія рэчы, якія спалучаюць нашу традыцыю і сучаснасць.

Дыктоўку, на словы Янкі Купалы, беспамылкова напісалі **Міра Лукша** і **Аліна Ваўранюк**. Усе апошнія справіліся на выдатна і дапусцілі толькі дробныя памылкі.

Даволі цікавы выклік чакаў вучняў класаў VII-VIII, якія пісалі фрагмент апавядання Вольгі Такарчук «Зялёныя дзеці» ў перакладзе Марыны Шоды. Дыктоўку найлепш напісала **Алеся Буткевіч** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія. У малодшай групе аднак не было сюрпрызаў. Тут, як і год раней, перамог **Мікола Абрамюк**. Для іх была падрыхтавана легенда пра паходжанне Берасця. Падборка і тэма не былі выпадковымі. Вучні праваслаўнай школы часта ездзяць да сваіх сяброў у Берасце. Два дні да дыктоўкі ўдзельнічалі ў Фестывалі беларускай культуры, прымеркаванага да Дня роднай мовы. „І гэта быў такі жэст сяброўства, — кажа Іаанна Марко. — Мы хацелі, каб нашы вучні больш даведаліся пра горад сяброў, які нядаўна адзначыў сваё 1000-годдзе".

Беларускую дыктоўку ў беластоцкай праваслаўнай школе пішуць з 2013 года. Ідэю зашчапіла настаўніца беларускай мовы Іаанна Марко. Сёлета дыктоўку пісала каля 60 асоб, а ўсё адбылося ў панядзелак 24 лютага г.г. Упершыню далучылі вучні з бельскай «тройкі» і беластоцкай «чацвёркі», прыехалі таксама старыя сябры з Нарвы. Паколькі беларуская дыктоўка стала ўжо свайго роду візітнай картачкай школы, мерапрыемства было падзелена на некалькі частак. Для ўсіх вучняў і гасцей гаспадары падрыхтавалі мастацкую частку са спевамі, танцамі і тэатральнымі пастаноўкамі ды пачастункам. Традыцыйна ўжо пераможцы дыктоўкі (мова пра школьнікаў) ва ўзнагароду атрымаюць гадавую падпіску на «Ніву».

А вось дакладны пералік лаўрэатаў:

У класах IV-VI перамаглі:
I месца: **Мікола Абрамюк** (НШ свсв. КіМ)
II месца: **Наталля Новік** (НШ свсв. КіМ)
III месца: **Марта Петручук** (ПШ у Нарве)
Вылучэнне: **Аляксандра Кузьма** (НШ свсв. КіМ), **Габрыела Баркоўская** (НШ свсв. КіМ), **Ніка Федарчук** (ПШ № 4 у Беластоку).
У класах: VII-VIII перамаглі:
I месца: **Алеся Буткевіч** (НШ свсв. КіМ)
II месца: **Габрыела Крупіч** (НШ свсв. КіМ), **Марыя Пякарская** (ПШ № 4 у Беластоку)
III месца: **Марта Петручук** (ПШ у Нарве)
Вылучэнне: **Эмілія Калодка** (НШ свсв. КіМ), **Матэвуш Астасевіч** (ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім)

**Фота і тэкст**
**Ганны Кандрацюк**

## УВАГА КОНКУРС! № 10-20

**Яе мы сябрам называем, яна ж нам тайны адкрывае, мы з ёй павінны век дружыць, бо вучыць нас на свеце жыць.**

**к....**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 16 сакавіка 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 6-2020: Сонца і Месяц. Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйгралі Оля Хіліманюк з Нарвы і Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Можа захочаце замахнуцца на вялікую прозу?





Не, такое не існуе. Вядома, не напішацца тэксту за пяць хвілін! Тым больш рэпарцёрскага тэксту, дзе трэба знайсці тэму, пазнаёміцца з героямі, а пазней яшчэ сесці і пачаць працу. Рэпартаж не пішацца за адзін дзень. І нават не за два. Магчыма таму нават, калі аб'яўляюць нейкі журналісцкі конкурс, часам не хапае сіл, каб здзейсніць планаваны ўдзел. Таму тут трэба павіншаваць маладых і смелых жыхароў гміны Гарадок, якія паслалі свае тэксты на конкурс прымеркаваны да дваццаціпяцігоддзя існавання часопіса „Гарадоцкія навіны". Першае месца сярод дзяцей і моладзі заваявала Юлька Грэсь з Залук.

— Я найбольш хвалявалася, што тэкст не з'явіцца, а герой майго тэксту, спадар Андрэйка, ужо ўсім сказаў, што будзе аб ім у „Гарадоцкіх навінах", — прызналася пасля ўручэння ўзнагароды Юлька. — Першага месца не чакала, таму гэта для мяне яшчэ большая радасць.

Усё-такі не існуе адзін правераны рэцэпт у творчасці на поспех. І ўжо не важнае, што будзем ствараць — карціны, скульптуры ці менавіта тэкст. Таксама няма лёгкай дарогі да майстэрства. Юлька свае першыя журналісцкія тэксты пачала ствараць у час майстар-класаў „Сустрэчы Зоркі", якія друкаваліся менавіта тут — у „Зорцы". Як вядома, на летнік прыязджаюць розныя індывідуальнасці, а тых нельга вучыць на адзін капыл. Адны пішуць на тысячу знакаў, другія выціскаюць паўтысячы. Хтосьці піша паэзію, іншыя — прозу. Таму няма аднаго ўзору, які абавязкова прывядзе цябе да поспеху. Усё-такі ў час такога летніка можна пазнаць шэраг прыёмаў, дзякуючы якім можна ўдала працаваць над тэкстам і над сабою. Таму варта старацца, каб папасці на сёлетнія „Сустрэчы Зоркі". Апрача таго варта ставіць перад сабою чарговыя выклікі, нават калі гэта патрабуе часу і пільнасці. Варта карыстацца шансамі, якія з'яўляюцца вакол нас.

Моладзь з Гарадка сваімі тэкстамі дала жыццё гісторыям, якіх магчыма ніхто б не прыкмеціў, а мы аб іх проста не ведалі б. Спадар Андрэйка — герой тэксту Юлькі — адмыслова для добрага рэпарцёрскага здымка запрагаў каня. Але больш будзе можна паглядзець і прачытаць у чарговых „Гарадоцкіх навінах". Такія конкурсы, як той, паказваюць, што вы хочаце нечым падзяліцца. А можа нават захочаце замахнуцца на вялікую прозу?

Тэкст і фота **Улі ШУБЗДЫ**

# Міфы
## старажытных беларусаў

Ля возера Святога ў палескім Туры



Азёры — аб'ект культу старажытных беларусаў, у памяць якога захаваліся назвы Святое возера, Свяціца, Святазер'е. На берагах многіх азёр былі знойдзены сляды язычаскіх капішчаў: камяні, дубы, амулеты. Пакланенне азёрам было звязанае з культам урадлівасці.

Нашы продкі верылі, што азёры стварыў Бог, які загадаў птушкам распаўсюдзіць па свеце ваду, што спачатку знаходзілася толькі ў адным месцы.

Легенды пра азёры часта распавядаюць пра тое, што на іх месцы стаялі царква, вёска ці горад, якія праваліліся пад зямлю. Гэта, не інакшай, а пакаранне — за грахі і правіннасці. Шмат дзе даказваюць, што ў гэтым месцы, быццам пад вадой ідзе служба, чуваць званы. У палескім сяле Тур, дзе, паводле легенды, правалілася царква, на роўнай паверхні возера Святога, з'яўляюцца іконы. Легенда фіксуе цікавую гістарычную дэталь. Тут менавіта мог знаходзіцца сярэднявечны манастыр з майстэрняй іканапісу, якую заснаваў св. Пятро Ратэнскі. Цудадзейная ікона яго аўтарства напрыканцы XIII стагоддзя была падаравана ў замкавую царкву ў наш Бельск, якой слава і ласкі (хаця захавалася адно копія) суцяшаюць па сённяшні дзень людзей...

Але прастора азёраў не заўсёды спалучалася са святасцю. Нашы продкі верылі і ў тое, што ў азёрах жывуць русалкі, свіцязянкі, яваркі, ядзеркі, азёрніцы і вадзянікі. Сустрэча з гэтымі персанажамі магла скончыцца смерцю, таму ў месцах ахінутых змрочнымі легендамі нельга было крычаць і брыдкасловіць.

(Адрэзак адрэдагаваны на аснове кніжкі Алены Коршак «Беларуская міфалогія для дзяцей».) **(гак)**

# Польска-беларуская крыжаванка № 10-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 6-2020:**

Наш, спадар, Ас, шар, кут, арт, пража, прынак, арэна, раса, ой, аловак, ом, сіла, крылы. ЗША, клас, парк, Лі, гарт, арол, права, на, прэса, рынак, капа, дужы, бор, танк, мы, на, спакойны.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Дам'ян Горчак, Рафал Шумінскі** з Бабік, **Вікторыя Кондрат, Наталля Кіндзюк, Якуб Васільчык** з Нараўкі, **Раксана Маёр, Пётр Вілюк** з Арэшкава, **Вікторыя Якімюк, Оля Мадзалеўская** з Нарвы, **Дам'ян Карнілюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!



# Былі маладымі — было цікава

*Размова з* **Марысяй АДЗІЕВІЧ**, *у дзявоцтве Рынгайла, 1930 года нараджэння з Орлі.*

**— Ці Вы запамяталі сваіх дзядоў?**

— Дзяды з боку бацькі Мікалая то Вольга і Павел Рынгайла. Іх хатка на рагу вуліц Крывой і Бельскай згарэла ў час пажару Орлі 18 мая 1938 года, але тады дзяды ўжо не жылі. А ў той хатцы жыў дзядзька Валодзька, які ў 1940 годзе ажаніўся з жыдоўкай Шыфрай, мелі дзяўчынку.

А са стараны маці Мані дзяды — Тамаш і Марыя Валасовіч. А ў дзявоцтве бабуля — Кандрацюк Берта Люіза была немкай і выйшла за дзедка. На могілках у Орлі ёсць такі чыгунны крыж з надпісам „Hier ruht in Gott Paul Hermann Olbrsch gest. im 18tem Lebensjahre 1888”. Як было пахаванне, то склікалі ўсю арлянскую моладзь; гэта мабыць нейкая сям'я дзядоў. У гэтым месцы хавалі немцаў, а зараз і нашу вялікую сям'ю.

**— Школа, давучанне?**

— Пры санацыі хадзіла адзін год, пайшла ў 1938 годзе. У 1940 годзе саветы вярнулі ў палову першага класа, вучылася два гады. Пры немцах хадзіла тры гады ў школу, але не давалі ніякіх дакументаў. Вучыў Лашкевіч, рахункаў, крыху пісаць, казкі расказваў. І казалі мы яму: Васіль Фоміч, перавядзіце нас у чацвёрты клас. А ён адказваў: „Пол умно соловенком ніж дурно шчэглёнком”.

Пасля вайны школа была і зараз ішлі вучыцца. У 1950 годзе выйшла замуж і больш я навукай не займалася, бо былі дзеці.

**— Першая праца? ГС ужо быў?**

— Найперш гэта быў хіба ПСС, не ведаю. Помню, што прадаўшчыцамі былі Оля Цвяцінская, Ядзя Здановіч, Вера Кубаеўская. У ГСе працавала я ўжо з 1948 года, тады была яшчэ паненкай. Я працавала ў бюро работнікам разумовай працы, у кнігаводстве. Ваня Мураўскі быў галоўным бухгалтарам, Маліноўская вяла галоўную кнігу, прэзасам быў Белаказовіч з Відава а пасля яго Буркевіч з Парцава.

**— Чуў, што Ваша замужжа было складанае...**

— У 1950 годзе выйшла замуж і звольнілася з работы ў ГСе. Звольнілася, бо выязджала да мужа, які быў міліцыянерам у Сувальскім. Калі я звальнялася з ГСу, то прыехаў нейкі чыноўнік з ПЗГСу і пытаў, ці мяне звальняюць, ці я сама звальняюся. Было гэта 1 мая і ён даў мне яшчэ пяць тысяч узнагароды за добрую працу. І тады на маё месца прынялі Толіка Адзіевіча на сакратара, а пасля стаў ён прэзасам.

Перад шлюбам патрабавалі прайсці лекарскае абследаванне, што магу выйсці замуж. Муж Міхал быў у міліцыі, але мы ўзялі царкоўны шлюб — бо я не хацела інакш — і яго выкінулі з міліцыі. Дайшла вестка ў Беласток і яго звольнілі. Былі паўгода ў Сувальскім, а пасля ў Мельніку. Мужа пасля шлюбу арыштавалі і пасадзілі на два тыдні ў турму ў Беластоку; і вярнуўся цывільным. Пайшоў на працу ў кафлярню ў Орлі, быў там слесарам. Кавальству вучыўся раней у свайго бацькі Філіпка, а Філіпок вучыўся ў жыдоў Шуйкаў, траіх братоў, якія мелі кузню пры Крывятыцкай вуліцы.

Пра аднаго з тых кавалёў расказваў мне цесць Філіпок. Было так, што плакаў той каваль, калі яму памерла дзіця. І праклінаў матам: „Нэ хотіеў йесті булку, то йеш зэмлю”.

У Шуйка радзіліся самыя дочкі, а ён чакаў сына, наследніка. То калі жонка нарадзіла пятую дачку, то ён за галаву дзёрся і крычаў: „Ку...а ку...у прывяла, гевалт!” Не хацеў яе забіраць дадому, то сабраўся кагал і жыды супакойвалі яго.

**— Ці партыя дапамагала? Вядома, што прадаўцоў агітавалі ў ORMO.**



— Я не належала, я туды не пасавала. Я толькі спявала і танцавала.

**— А грамадскія чыны?**

— Я не хадзіла. Пры немцах я да работы хадзіла.

**— У Вас многа адзнак за культурную дзейнасць — „Заслужаны дзеяч культуры”, „Бронзавы крыж заслугі” і іншыя. Вы выступалі ў „Арлянах”, а раней у тэатры, які заснавалі і вялі Анна Фалінская з ГСу і Людміла Качынская з кафлярні. Акцёрамі былі радавыя рабочыя кафлярні, ГСу...**

— Я таксама выступала. Іграла ролю Любы Шаўцовай у „Маладой гвардыі” Фадзеева. Ігралі ў Беластоку і занялі першае месца, а потым ездзілі аж у Элк. Ігралі там Альбіна Гжыбкова, Косця Кубаеўскі — іграў Цюленіна, Грыша Савіцкі — жандара, Янак Назарэвіч...

На рэпетыцыі хадзілі ў фабрычную святліцу. Памятаю — ігралі „Вяселле панны Лёлі”. Стэфан Рыбак быў маладым, маладою Надзя Кудэрская, а я была яе малодшай сястрой. У тым спектаклі было нешта такое, што „як пацалуецца з хлопцам, то народзіць дзіця”. І мне выпала такое смешнае, а мне было ўжо 16-17 гадоў, мела ўжо кавалера. „Mój Boże, jak to dziwnie się plecie na tym świecie — Lola wychodzi za mąż, a ja muszę mieć dziecię”, бо пацалаваў мяне той малады ў самыя губы. То ў зале ўсе рагаталі.

Выступала яшчэ ў ГСе, іграла артыстку ў спектаклі *"Kra nadchodzi"*. У ГСе тэатр таксама вяла Анна Фалінская, яна працавала ў мясцовым гэесаўскім банку. Я ўжо была замужняя і адмовілася выступаць. То прыйшоў з бюро ў маю краму Ваня Бабулевіч са Спічкоў; ён быў у камітэце і яму паскардзіліся, што я не хачу выступаць. То ён заявіў: „Звольніць дысцыплінарна!”. І я мусіла выступаць у тэатры.

У калектыве выступала зараз пасля вайны, яшчэ не было мандаліністаў і дырыжор Радзівон потым быў. Былі два калектывы: у адным выступалі пеўчыя з царкоўнага хору, у другім, дзе была я — выступала моладзь.

У пачатку 1970-х гадоў быў інструктар Кадзевіч з Бельска, іграў на скрыпцы. Перад ім быў, але коратка, Нявінскі, які іграў на акардэоне. Калі быў Кадзевіч, то мы спявалі пераважна польскія песні. Пад канец 1970 года прыйшоў працаваць інструктарам Юзаф Янушка і пачалі спяваць салдацкія песні, бо ён быў у Чырвонай Арміі. То быў добры, здольны інструктар, іграў на акардэоне, піяніна, фартэпіяна. Было так, што калі я выходзіла на сцэну, то зала апладзіравала.

**— Ваша далейшая праца? Якія гэесаўскія крамы былі ў самой Орлі?**

— Цягам чатырох гадоў працавала кухаркай у школе — рыхтавалі вучням каву, пончыкі і дражджавыя блінчыкі. Было больш трохсот вучняў. [У самой арлянскай школе, а зараз менш у цэлай гміне — М. М.] У 1974 годзе зноў пайшла ў ГС, працавала ў прадуктовай краме, за гаспадай. Побач была крама з канцылярскімі таварамі а ззаду — абутковая. Там, дзе старая пякарня, прадавалі палатно, а ззаду была *tania jatka*. На рагу, дзе зараз Аргелан, была таксама прадуктовая крама, побач жалезная, а ззаду ўсялякае чарап'ё. Што нейкі час крамы „пераносілі” — мянялі ў іх асартымент. На плошчы побач быў машынны асяродак.

У парку, на рагу ад стараны царквы, быў прадуктовы кіёск, у якім працавалі чаргова Кантышова, Марыся Рыбак, Ліля Федаровіч. Потым той прадуктовы кіёск перанеслі пад млын, каля Гаркавай (раней стаяў там кіёск „Руху”) пры вуліцы Бельскай. Пасля той кіёск перанеслі ў сам пачатак Орлі і я ў ім працавала. Вакол было многа прадпрыемстваў: кафлярня, прыватная кафлярня, бетанярня, бюро і склады ГСу, пякарня, мясарня, эскаэр, управа дарог. Прыходзілі рабочыя, людзі з Орлі, Міклашоў, а нават з Вулькі. Там быў вельмі добры рух. А я толькі... піва грэла. У цэнтры Орлі былі яшчэ крамы з таварамі хатняга ўжытку, тэкстыльная і абутковая.

**— Мне цікава, як было з продажам і забеспячэннем у час ваеннага становішча, у часе страйкаў?**

— Тавар быў, толькі ўсё выкуплялі. Мяса было на карткі, таксама папяросы, гарэлка. Куплялі і выкідалі. Ну, навошта старой бабе гарэлка?

Прывозілі ўсё тое, што заказвалі. Толькі ўсё раскуплялі. Напрыклад, заказвала я 50 штук шакаладу, а дастаўлялі 30. То ж прылавак дасоўвалі аж да сцяны, так пхаліся. Каша была ў мяшках і трэба было важыць. У павільёне біліся за дываны, а ці ж гэта тавар першай патрэбы?

Быў тавар, толькі людзі мелі грошы. Ведай: калі крама пустая, то ў людзей ёсць грошы, а калі ў краме поўна тавару, то ў людзей грошай няма. А то бралі ўсё, што было.

**— Сяляне не страйкавалі, а мяса не хапала. Помню, калі я працаваў у эскаэры, то пад свята закалолі нейкую худзізну з адкормачні ў Шчытах і дзялілі між усімі працаўнікамі эскаэру...**

— Пакуль страйкаў не было, то тавар быў.

**— Пайшлі на пенсію. Як можна параўнаць тадышняе жыццё з сённяшнім?**

— На пенсію пайшла ў 1989 годзе. Прэзас хацеў, каб яшчэ працавала, бо ў мяне „так спрытна ішла продаж”, абяцаў падбаўку.

Калісь жыццё было цяжкое, бо гарэлка была танная і хто папіваў, то быў недахоп у сям'і. Ці калі нейкая жанчына піла піва? То ж то быў сорам. А сёння паглядзі — усе п'юць на вуліцы. Калісь у аўтобусах заўсёды ўступалі месца старэйшым. А цяпер? Цяпер такая культура, што маладыя саромеюцца бацькоўскай мовы.

Словам: калі былі маладымі, было цікава, было весела. Было бедна, але весела!

Сёння ўвесь дзень чалавек аглядае тэлевізар і ўвесь дзень звоніць тэлефон. А калісь хадзілі — сусед да суседкі. Па суботах вечарамі мужчыны семкі лузалі, а бабы нешта расказвалі. А ў іншыя дні жанчыны вязалі або пралі, а мужчыны ў карты гралі.

А зімою то сусед Стэльмашук і мой цесць пераважна латалі валёнкі дзецям, абшывалі; такую работу мелі. То было вельмі цікава, расказвалі пра бежанства, пра войска, пра Картуз-Бярозу. То нам, маладым, было вельмі цікава слухаць.

А цяпер? Тэлевізар. А старэйшаму чалавеку то ўжо і тое нецікава. Ужо хочацца спакою, ужо здароўя няма. І ўсё гэта нервуе. Знаеш, з гадамі ўсё праходзіць. Чалавек хацеў бы нешта зрабіць, а ўжо не можа. Вачыма хочаш...

**— Вельмі дзякую за размову і жадаю Вам моцнага здароўя!**

Пытаў і фатаграфаваў
**Міхал МІНЦЭВІЧ**



**Валянціна МЯДЗВЕДЗЬ**
Беласток

## Восень

Сонца грэе слабей і слабей,
сумна — восень ужо надыходзіць,
а прыгожае лета ад нас
усё далей і далей адходзіць.
Забірае з сабою кветкі
і птушкі ў цёплы край выганяе.
І вось восень бліжэй і бліжэй
дажджу плюскам ужо нас вітае.
Акрасіла на жоўта сады,
павуціну ў траве расцягае
і малюе палі і гаі.
Усё каротшыя сумныя дні.
Лісце жоўтае падае з дрэў,
белы нізка плывуць туманы
і гараць арабіны ў далі.
Сонца позна ўжо ранкам ўстае,
вецер гоніць чорныя хмары.
Над лугамі ўсцяж туманы.
І да белай марознай зімы
яна зноў эсэмэс высылае.

## Вялікая даліна

Дзе зялёная ніва, шырокі загоны
і трава густая мокра ад расы,
там бяжыць у рэчцы чыстая вада,
там гуляла дзеўка зусім малада.
Вялікая даліна, зялёная ніва.
Там жыве кахана мілая дзяўчына.
Сонца ясна свеціць, спеюць каласы.
Прыйдзі, мая міла, да мяне сюды.
Па вялікай ніве зялёны пакосы.
Да цябе, Маруся, па расе бег босы.
А мая Маруся ў траве стаяла,
мяне, маладога, у сабе раскахала.
Пойдзем мы далінай, зялёнаю нівай,
пойдзем мы за сонцам,
там дзе руты зелле,
а вас, даражэнькі, просім на вяселле.

## Нёман

Ой ты, Нёман, быстры Нёман,
чыста сіняя вада.
Ты плывеш праз край вялікі,
беларуская рака.
Ах ты, Нёман, бацька Нёман,
цвітуць твае берагі.
Ты плывеш праз край наш родны
і заўсёды малады.
Раніцай на твае воды
белы лебедзь прыляцеў,
распусціў ён свае крылы,
на грудзях тваіх прысеў.
Нёман, Нёман, быстры Нёман,
колькі рыб у тваіх вадах!
Ты плывеш і рыбай корміш
беларуса-мужыка...

## Макі

Рассеяліся дзікія макі пад плотам
і агніста-прыгожа цвітуць тут яны.
А ў траве там за плотам рамонкі бялеюць
і сінеюць у жыце красуны-васількі-
валошкі — так міла на ўсё спазіраюць,
маргаюць з нівы да нас кукалі.
І на яснае сонца ўсе спаглядаюць,
і растуць і цвітуць на падляшскай зямлі.
А там асот з-за плота галаву выхіляе,
зелянеюць заўзята жыгучкі-крапівы.
І ўсе яны так дажджу чакаюць, чакаюць.
Пажоўклі ад сонца высокія травы.



**Ян ДАМБРОЎСКІ**
Беласток




## Доля мацеры

У зялёным садочку сухі дуб развіўся.
Быў добры сыночак, пакуль не жаніўся.
А як ажаніўся, узяў сабе ён жонку,
Забыўся пра маму і родну старонку.
Родная ты маці, гордая ты стала,
Праз горкія слёзы сябе не пазнала.
Кідай, маці, поле, цяжка жэ рабіці,
Прыязджай да мяне і тут будзеш жыці.
Прыехала да сына, яго не застала.
Гордая нявестка ў злосці адказала:
«Дзеці ўжо вялікі, няма што рабіці.
Ідзі ты да дочкі, і там будзеш жыці».
Адведала дачку, стала у куточку:
«Родная ты дочка, памый мне сарочку».
«Не буду я, маці, мыці, няма дзе сушыці,
Дываны дарагія, як жа па іх хадзіці».
Перастань ты, маці, па дзецях хадзіці,
Ідзі ты ў дом старцаў і там будзеш жыці.
Пайшла ў дом старцаў, пачала хварэці,
Ніхто з родных дзетак не прыйшоў глядзеці.
У меншага сына ёсць хата хароша,
А яна збудавана за мацерыны грошы.
Пара табе, маці, дзе жоўты пясочак,
Толькі не забудзь, астаў нам свой кашалёчак.
Добры вы, дзеткі, вас я гадавала,
Над вашай калыскай песні я спявала.
Не адну я ночку праз вас я не спала,
Сама не даядала, вам усё аддавала.
Добрыя вы, мамы, гадуйце вы дзетак,
А вам астаецца вось той недаедак.
Астаюцца толькі недаспаны ночы,
Утомленыя рукі, выплаканы вочы.

## Першае каханне

Нявіннае салодкае каханне,
Сам ішоў праз свет,
Шукала свайго дому,
Заўсёды ішло не ў след.
Ад хвіліны яго народзінаў
мінула ўжо пяцьдзясят лет.
Далей шукала тых двое,
Што раздзяліў іх свет.
Знала, што калісь знойдзе
Стомленыя сэрцы два,
Якія прытуліліся да сябе
І з імі будзе ішла.
Ніколі ўжо не дазволіць
На слёзы, цярпенне і сказы,
Атуліць іх сваім шалем,
Праз жыццё пойдуць разам.
Пяцьдзясят гадоў мінула, хаця
Цяжкі багаж прошлага
Можа знойдзецца ў ціжбе,
Вярнуцца да першага парыву.

## «Чаму я?»

Чаму ўсё-такі я, чаму выбрала ты мяне,
Кахала да шаленства, слухала толькі сябе.
Чаму толькі ты стала на маёй дарозе,
Сёння з маіх вачэй плывуць слёзы,
А ты спакойна адыходзіш.
Забудзь назаўсёды, каханая, забудзь
Пра тое, што было,
Сёння дарую табе ўсё,
Дзякую за любоў.

# Калі актыўныя цяжкія планеты...

Калі актыўныя цяжкія планеты Сатурн, Уран, Нептун і Плутон апынаюцца ў негатыўных аспектах, па свеце праносяцца жудасныя эпідэміі. Гэтак як справа маецца зараз з каранавірусам. **ЧУМА ЮСТЫНІЯНА** — кан'юнкцыя Сатурна і Плутона: у сярэдзіне VI ст. насельніцтва Еўропы, Афрыкі і Азіі зрэзала чума Юстыніяна — ад імя тагачаснага імператара Візантыі, якога яго таксама не пашкадавала. Падлічана, што 100 мільёнаў чалавек сталі яе ахвярай, гэта значыць амаль 1/4 насельніцтва Зямлі на той час. Гэтыя драматычныя падзеі абвясцілі спалучэнне змрочнага Сатурна са смяротным Плутонам у Казярогу.



**ЧОРНАЯ СМЕРЦЬ** — Плутон у спалучэнні з Уранам у Баране — калі пачалося чатырнаццатае стагоддзе, Сатурн і Марс былі ў апазіцыі да Плутона. Гэта не абяцала мірнага стагоддзя, хаця і без вялікіх войнаў. Страшная чума пракацілася па ўсёй Еўропе, на Блізкім Усходзе і ў Паўночнай Афрыцы, вядомая як чорная смерць, якая забрала жыццё 200 мільёнам чалавек. Чума, як і каранавірус, успыхнула ў Кітаі, адкуль разам з караванамі купцоў Шаўковага шляху яе завезлі ў Еўропу. У той час Плутон знаходзіўся ў спалучэнні з Уранам у Баране. **ЭПІДЭМІЯ ХАЛЕРЫ** — Плутон у кан'юнкцыі з Юпітэрам: дакладна такі ж самы лад зорак і таксама ў Баране паўтарыўся ў 1849 годзе. У той час бушавала эпідэмія халеры. Пакуль нямецкі навуковец Роберт Кох выявіў бактэрыю, якая адказвае за заражэнне ды ўказаў брудную ваду як крыніцу чумы, загінула больш за 40 мільёнаў чалавек. У час адной з найбуйнейшых пандэмій у свеце, **ІСПАНСКАГА ГРЫПУ** ў 1918-1919 гадах, загінула каля 20 мільёнаў чалавек толькі ў Еўропе. Нават аддаленая Аўстралія гэтага не пазбегла, а смяротнасць у свеце ацэньваецца ў 50-100 мільёнаў чалавек. У гэты час Юпітар утварыў сувязь з Плутонам, у той час як Сатурн знаходзіўся ў спалучэнні з Нептунам і ў апазіцыі з Уранам.

**ВІРУС ВІЧ** — спалучэнне Сатурна і Плутона: вірус ВІЧ, які выклікае эпідэмію СНІДу, быў выяўлены ў 1983 годзе. Гэта стала прычынай гібелі каля 40 мільёнаў чалавек у свеце. Спрыяльнае эпідэміям злучэнне Сатурна і Плутона на гэты раз адбылося на мяжы Шаляў і Скарпіёна. Гэта выдатна адлюстроўвае характар гэтай хваробы, якая перадаецца ў асноўным сексам і крывёй, таму доўгі час яна лічылася праблемай толькі для гомасексуалістаў, прастытутак і наркаманаў. **ВІРУС ВРВІ** (SARS) — супрацьстаянне Сатурна Плутону: у 2002-2003 гадах свет дрыжаў ад віруса ВРВІ, які з Кітая распаўсюдзіўся па ўсім свеце. Сіндром вострага дыхальнага дыстрэсу закрануў амаль 8000 чалавек, з якіх 774 памерлі. Яго суправаджала супрацьдзеянне Сатурна Плутону.

**КАРАНАВІРУСАМ** забіта больш за 2500 чалавек! Сёння страшыць каранавірус. Ён таксама з'явіўся ў Кітаі, найбольш густанаселены абшар свету, што таксама дае шмат пра што падумаць. Нягледзячы на ізаляцыю ўсяго раёна Ухань і кантроль здароўя пасажыраў у аэрапортах, яму ўдалося перабрацца ў 25 краін свету, у тым ліку ў Іран, Карэю, ЗША, а таксама Італію, Германію, Францыю, Фінляндыю, Літву і Беларусь. На сённяшні дзень [25.02] ужо загінула больш за 2500 чалавек, а тысячы заражаныя. І тут зноў спалучэнне Сатурна і Плутона! Улічваючы, што ўзаемадзеянне Сатурна з Плутонам у Казярогу ў цяперашні час зноў адбываецца ў небе — як і падчас чумы Юстыніяна — і Юпітара з Плутонам — як у час іспанкі — у нас могуць узнікнуць праблемы. Будзем спадзявацца, аднак, што абароніць нас Уран у трыгоне ды на гэты раз дзякуючы прагрэсу ў медыцыне скончыцца толькі на глабальнай эпідэміі... страху.

Агата АРЛЯНСКАЯ



## http://haroshak.by

Адна з прыкмет цяперашняга часу ў Беларусі — з'яўленне разнастайных культурных праектаў, у якіх распавядаецца пра гісторыю і культуру. Прычым гэта тычыцца як грамадскага сектара, для якога дадзеная тэматыка ніколі не была чужой, так і для праўладнага, для якога яна звычайна не была цікавай, калі не крала Другой сусветнай вайны ці савецкай спадчыны. Але ўсё ж такі, калі працай у гэтым накірунку займаюцца вольныя ад ідэалогіі лукашэнкаўскага цемрашальства людзі, то ў іх гэта атрымліваецца значна лепей. Адным з прыкладаў гэтаму з'яўляецца праект „Зялёны гарошак", сайт якога месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://haroshak.by.

Паводле інфармацыі ў рубрыцы „Рэдакцыя", „Зялёны гарошак" — гэта незалежны культурніцкі праект, які распачаў працу ў маі 2017 года і займаецца шэрагам падпраектаў. Менавіта рэалізацыя гэтых падпраектаў і вызначае ўсю заўважную дзейнасць рэдакцыі „Зялёнага гарошка", пра людзей якой чамусьці нічога не распавядаецца ў дадзенай рубрыцы.

Тры падпраекты — гэта „Ногі ў рукі", „Знакамітыя беларусы" і „Тры пытанні". Так, першы гэта відэапраект, прысвечаны сучаснасці беларускіх гарадоў і іх людзям. „Галоўны герой перадачы кожны раз новы і паходзіць з горада, які мы паказваем. Праз экскурсію па горадзе раскрываецца не толькі яго гісторыя, але і гісторыя людзей, што жылі тут раней і жывуць цяпер, змяняючы рэчаіснасць да лепшага. Мы імкнемся распавесці не толькі пра цікавосткі Беларусі, якія застаюцца па-за ўвагай поп-турызму. Галоўнае — цікавыя, дзейныя, смелыя асобы, якія ёсць у любым мястэчку Беларусі", — прадстаўляюць падпраект яго распрацоўшчыкі. „Ногі ў рукі", як дарэчы, і кожны іншы падпраект, мае асобную рубрыку на сайце, дзе і месцяцца вышэйзначаныя перадачы. Згодна частаты іх публікацый, найбольш актыўна гэтымі перадачамі займаліся ў 2018 годзе. Летась выйшла толькі адна, а сёлета пакуль яшчэ не было ні адной.

У той жа час рубрыка падпраекта „Знакамітыя беларусы" абнаўляецца даволі часта і апошнія запісы ў ёй датаваны толькі што прамінулым лютым. Дарэчы, гэта таксама відэапраект, які ў папулярнай форме мае распавесці пра выдатных дзеячаў культуры, навукі, постаці ў гісторыі. „Фоташэраг суправаджаюць арыгінальныя тэксты, якія агучваюць знакамітыя беларусы сучаснасці. Даведацца пра іх можна ў раздзеле „Галасы беларусаў", — гаворыцца ў прэзентацыі падпраекта ў рубрыцы „Рэдакцыя".

Што ж тычыцца падпраекта „Тры пытанні", то гэта шэраг інтэрв'ю з самымі рознымі людзьмі. „Да кожнага ў нас ёсць аднолькавыя тры пытанні: якімі вы бачыце беларусаў, якой бачыцца вам наша краіна і што вы можаце сказаць пра беларускую мову? Мэта праекта — сабраць самыя розныя, нават палярныя меркаванні, каб зразумець, якой насамрэч з'яўляецца сучасная Беларусь. Не тая карцінка, што стварaецца буйнымі СМІ, але краіна, якая існуе тут і цяпер", — так вызначаюць свой падпраект натхняльнікі „Зялёнага гарошку".

Ёсць на сайце і два нерэгулярныя праекты — #бягомлікі і „На хвілінку". Першыя — гэта відэасюжэты, якія дасылаюць глядачы, а назва паходзіць ад Бягомля, дзе было знята першае кароткае відэа. А „На хвілінку" — гэта відэарэпартажы, якія паказваюць яркія падзеі беларускай культуры за шэсцьдзясят секунд.



Дата з Календара

## 110 гадоў з дня нараджэння
# Пятра КОНЮХА

Беларускі спявак, культурны дзеяч эміграцыі Пётр Конюх нарадзіўся 8 сакавіка 1910 г. у мястэчку Турэц (цяперашні Карэліцкі раён). Зямляк Конюха, беларускі пісьменнік Янка Брыль так успамінаў пра маладосць музыкі і спевака: „Быў ён найгалоўнейшым для тутэйшых падшыванцаў музыкам і граў у духавым аркестры пажарнай каманды. Пятро Конюх не толькі зухавата выцінаў на гармоніку, але і ўражваў сваім голасам прыхаджан мясцовай царквы, а калі выходзіў з кліраса да аналоя, крыху не на самую сярэдзіну паўналюднай, урачыста аціхлай царквы, і ўрачыста чытаў магутным басам „Апостала", рэчытатыў быў такі, што вісюлькі панікадзіла дрыжалі, гайдаліся і пазвоньвалі".

Пятро Конюх служыў у польскім войску. У 1938 г. скончыў сельскагаспадарчыя курсы ў Вялейцы. Працаваў у Баранавічах. У 1941 г. быў у Ржэве на курсах па ільнаводстве, дзе яго і заспела вайна. Трапіў у склад Польскага корпуса генерала Андэрса, дзе яго басам захапляліся ўжо жаўнеры і афіцэры. Прымаў удзел у бітве за Монтэ-Касіна. Быў адзначаны памятным Крыжам „За Монтэ-Касіна". У 1945 г. атрымаў вайсковую стыпендыю, каб удасканаліць свой талент у Рымскай акадэміі мастацтваў. У Беларусі заставаліся ягоная жонка і сын, з якімі спявак ліставаўся і дасылаў пасылкі.

У 1951 г. Конюх атрымаў дыплом спевака, у 1956 г. — музычнага крытыка і ганаровае званне маэстра акадэміі. Неверагодная шырыня галасавога дыяпазону, яго тэмбравая афарбоўка і моц дазвалялі яму выконваць вядучыя партыі ў „Фаўсце" Шарля Гуно, „Барысе Гадунове" Мадэста Мусаргскага, „Доне Карласе" Джузепе Вердзі. Жыццё эмігранта не было простым. У лісце да Вітаўта Тумаша ў 1953 г. Конюх пісаў: „Цяжка надта дастацца ў Оперу, несамавітая канкурэнцыя, бо ў Італіі толькі можна зарабіць у Оперы. Канцэртамі і Радыё зарабляю толькі на пражыццё і на навуку. У сучасны момант не магу наракаць, хоць зарабляю мала, але хапае на ўсё неабходнае. У мяне месяц таму быў імпрэсарыя з Оперы Метрапалітэну, слухаў мяне, запісаў мой рэпертуар. Казаў, што будзе для мяне шукаць працы ў Амерыцы. Надта было б добра, каб выехаць хоць на шэсць месяцаў на канцэрты, бо тут можна навучыцца, але грошы зарабляць трэба ў Амерыцы".

У 1955 г. спявак пераехаў у Нью-Йорк, дзе выступаў з канцэртамі і выкладаў у класе вакальнай, класічнай і народнай музыкі. У яго рэпертуары ёсць месца і беларускім песням. Конюх ніколі не забываў Беларусі, меў ліставанне з Рыгорам Шырмам і Янкам Брылём. У 1957 г. перамог на Міжнародным конкурсе вакалістаў у Рыме. У 1958 г. Конюха запрасіў да сябе ў хор донскіх казакоў Сяргей Жараў. Цягам 27 гадоў працы ў гэтым калектыве спяваў і беларускія песні, асобныя з якіх былі запісаны на кружэлкі, у тым ліку і „Магутны Божа".

Беларускі спявак выступаў у Лондане, Рыме, Парыжы, Боне. Выконваў як оперныя, так і народныя песні на беларускай, італьянскай, польскай, французскай, англійскай, нямецкай, расейскай і ўкраінскай мовах. Конюх выкладаў вакал ва ўласнай школе, дапамагаў ставіць голас Данчыку.

Памёр Пятро Конюх 14 чэрвеня 1994 г. у Канадзе. Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку, штат Нью-Джэрсі (ЗША). Запісы выступаў Конюха засталіся ў фондах медыякампаній і ў прыватных калекцыях. Матэрыялы пра яго жыццё можна знайсці ў Карэліцкім раённым музеі. У 2009 годзе на кінастудыі „Беларусьфільм" быў зняты дакументальны фільм пра спевака.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

## Міхалоўская дэмаграфія

Зараз у мейска-вясковай Міхалоўскай гміне Беластоцкага павета пражывае 6785 чалавек у 69 мясцовасцях. Плошча гміны складае 409 квадратных кіламетраў. Суседнія з ёю гміны: Гарадоцкая, Нараўчанская, Нарваўская і Заблудаўская. З усходу яна мяжуе з Рэспублікай Беларусь. Шчыльнасць насельніцтва — 16 чалавек на квадратны кіламетр. На 103 мужчын прыпадае 100 жанчын. Ва ўзроставай групе 85 гадоў жанчын больш чымсьці мужчын у чатыры разы. Жанчыны жывуць даўжэй. У Міхалоўскай гміне ёсць пяць цэркваў і жыве многа беларусаў.

У 2010 годзе ў гміне пражывалі 7154 чалавекі, у 2011 — 7088, у 2012 — 6975, у 2013 — 6886, у 2014 — 6775 і ў 2015 годзе — 6792.

У Міхалоўскай мейска-вясковай гміне найбольш людзей жыве ў горадзе Міхалова — амаль палавіна ўсіх жыхароў гміны. Найбольшымі вёскамі з'яўляюцца Новая Воля, Ялоўка, Бандары, Шымкі, Саколе, Навасады, Казімерова, Тапаляны, Жэдня, Геранімова і Юшкаў Груд. Да сярэдніх па колькасці жыхароў належаць Цісоўка, Пянькі, Мастаўляны-Калёнія, Леўшы, Масціска, Бахуры, Патока, Азяблы, Баршчэва, Ціванюкі і Тыльвіца.

**(яц)**

## Што ў 2020 годзе?

Улады Гайнаўкі шмат увагі прысвячаюць, між іншым, гарадскім вуліцам, аднаўленню іх маставых і пабудове тратуараў, перабудове дажджавой каналізацыі, а таксама вулічнага электраасвятлення.

У 2018 годзе мадэрнізавалі маставыя вуліц Каханоўскага, Тувіма, Міцкевіча, Цэльнай, Цеснай і Пшанічнай ды кавалкі вуліц Ураджайнай і Белавежскай.

У мінулым годзе перабудавалі маставыя вуліц Сланечнікавай, Ляшчынавай і Бортнікаў (Bartników). Пабудавалі новую пляцоўку для дзіцячых гульняў (між іншым, з гойданкамі) пры вуліцы Ліпавай ды скаладром.

Сёлета будуць перабудоўваць першнаперш вуліцы Рэя і Бярозавую.

**(яц)**

## Цяпер гарадскі парк не парк

Паўвека таму а можа крыху менш у Гайнаўцы быў даволі вялікі парк, а ў ім многа перш-наперш ліставых дрэў, між іншым, бяроз, ліп, вербаў, клёнаў, ясеняў і дубоў.

Бягуць гады і той колішні прыгожы парк займае ўсё меншую плошчу. З двух яго бакоў пабудавалі жылыя блокі, гатэлі, амбулаторыю. Выбралі якраз тут месца і пабудавалі вялікі амфітэатр і новыя сцежкі да яго, заснавалі вялікую пляцоўку з розным абсталяваннем для дзіцячых гульняў (яна што праўда ў самым вугле парка), не зважаючы на шматгадовыя дрэвы, якія раслі ў парку. Вакол яго пабудавалі шырокія тратуары. Ссеклі ўсе ліпы пры тратуарах на вуліцы Арміі Краёвай. Амфітэатр здамінаваў тутэйшую зялёную прастору. Прырода прайграла. Будоўля важней. А што там, што амфітэатрам карыстаюцца толькі летам.

З кожным годам сякуць паркавыя дрэвы. Зараз іх усё менш і менш. Курчыцца плошча зелені. Калі 28 студзеня гэтага года я быў у гайнаўскім міні-парку, агарнуў мяне жах. Які цяпер той парк? Многа стройных беластоцкіх бяроз ссеклі, між іншым, пры скрыжаванні вуліц Арміі Краёвай і Паркавай. Пры вуліцы Паркавай асталіся яшчэ расці восем дубоў. Тры з іх — помнікі прыроды. Тут захаваліся яшчэ і вялікія ліпы.

Цераз рэдкія дрэвы ў паркавай прасторы навылёт бачны меншыя і большыя мураваныя будынкі з усіх бакоў. Гэта ўжо не парк, а ўсяго скверык. Слова „парк" астанецца толькі ў назве вуліцы Паркавай? Дзе тады вялікім і малым гараджанам выбрацца на прагулку на свежым паветры? Чаму тут не садзяць ліставых дрэў і дэкаратыўных ліставых кустоў? Летам не цвітуць тут кветкі, бо іх таксама не садзяць.

**(яц)**

## Новае ў Саўлянах

Саўляны — адна з прыгажэйшых вёсак Супрасльскай гміны Беластоцкага павета. Зараз пры асфальтавай дарозе з Беластока да сяла пабудавалі новыя вялікія магазіны і склады. Там, дзе зараз іх найбольш, зрабілі прыпынкі для аўтобусаў гарадскога транспарту ліній № 1 і № 13. Цяпер побач маставой будуюць веласіпедную сцежку. Дарожкі для веласіпедыстаў раней тут не было.

За апошнія пяць гадоў за вёскай і пры лесе па вуліцах Алейкавай і Ветраковай прыбыло шмат мураваных аднасямейных дамоў. Насельніцтва вёскі павялічылася на больш за сотню чалавек. Узбоч вёскі паралельна да галоўнай вуліцы прыбыло новых пасяленцаў. Новая вуліца пакуль без назвы.

Вяскоўцы паставілі новыя платы каля сваіх сядзіб. На панадворку праклалі дарожкі з чырвонай брусчаткі. Зараз тратуары на вуліцах пераважна з шэрай брусчаткі. У сяле для выгады жыхароў усю ноч гараць лямпачкі вулічнага электраасвятлення.

**(яц)**



## Адгаданка

**1.** асвятляльны прыбор, **2.** квадратны корань з дзевяці, **3.** жаночы голас, **4.** наняцце, **5.** свабода, **6.** буйны швейцарскі горад, **7.** слонімская рака, **8.** пеўчая птушка, у якой... сала, **9.** прадукт з печані, лёгкіх, сэрца забойнай жывёлы, **10.** падлога ў стадоле, **11.** саслоўна-прадстаўнічы орган у ВКЛ і Рэчы Паспалітай, **12.** заліў на ўсходзе Англіі (*Wash*), **13.** лёгказбройны кавалерыст, **14.** вялікі гармонік, **15.** салдат, **16.** палахлівы звярок з атрада грызуноў, **17.** жылая сялянская пабудова з бярвення, **18.** бальны танец, які танцуюць... кадры.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка. **(ш)**



Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 6 нумара**

Вожык, бронха, кветка, віка, акно, сваццця, пляцо, таможня, рыцар, трацяк.

Рашэнне: **Жыві не так як хочацца, а як можацца**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Ірэне Лукшы** з Гайнаўкі.

## 08.03 — 14.03

**(22.03. — 20.04.)** З найцяжэйшымі заданнямі пачакай да вясны. Сонца спрыяе прыцішэнню і рэгенерацыі. Добры час парваць з кепскімі звычкамі і прагаладацца. Затое асцярожна з фізічнымі нагрузкамі і спортам. Адкрыюцца перад табой новыя магчымасці, прыкмеціш штосьці, чаго дагэтуль не бачыў. У пачуццях дай сабе больш часу, не дэкларуйся неабдумана!

**(21.04. — 21.05.)** Зыдзеш са знаёмай дарогі і пашукаеш новых магчымасцей, каб сябе рэалізаваць. 8-10.03. разгледзься сярод сваіх прыхільнікаў — убачыш неадшліфаваны дыямент. Раптоўны зварот у кар'еры прымусіць цябе рэарганізаваць сямейнае жыццё. На працы адкрыюцца перад табою дзверы, аб якіх ты нават не марыў. Калорый не мусіш лічыць. 8-10.03. запрэзентуешся з як найлепшага боку.

**(22.05. — 22.06.)** Не ўсе будуць цябе падтрымліваць, але дасі сабе рады. 10.03. адкрыецца перад табою свет. 8-10.03. не паддавайся нічыім уплывам і ўгаворкам. 8-10.03. не зрабі чагосьці, чаго будзеш хутка шкадаваць. На працы вельмі пільнуйся 8-10.03., хутчэй папраўляй, без рэвалюцыі: кіраўніцтва не вельмі добра цяпер ставіцца да цябе. На ўсякі выпадак захоўвай усе мейлы, дакументы, каб на ўсякі выпадак не зрабілі з цябе казла адпушчэння. Чытай усе запісы з банку, бо залатыя горы могуць аказацца падвохам. Пільнуйся таксама пры пакупках.

**(23.06. — 23.07.)** Удалы ўвесь месяц, асабліва з-за важных падзей на працы. Блізкія таксама не падвядуць. Неба зайграе на нервах, але змабілізуе да рашэнняў у сардэчных справах. Нараканні і крытыка сваякоў і знаёмых. З 11.03. будзе цябе цягнуць да людных і шумлівых месцаў. У многім будзеш абавязаны іншым людзям. Справу, над якой бядуеш ад даўжэйшага часу, аформіш пасля 12.03. (да 16.03.).

**(24.07. — 23.08.)** Цікавы будзеш новых людзей, невядомых месцаў. Бліжэй прыглядзься нейкім справам і абдумай іх. Трапныя фінансавыя і прафесійныя рашэнні. Прыцягваць цяпер будзеш нялёгкіх партнёраў. 8-10.03. можаш быць крыху разгублены і меланхалічны; пагражае табе расчараванне, якое будзеш перажываць. На працы будзеш брацца за творчую, цікавую работу. Але не лянуйся, ідзі на курсы, там і навучышся, і наладзіш кантакты. Схадзі да лекара першага кантакту. Змяні сваё меню на лягчэйшае.

**(24.08. — 23.09.)** Не шукай праблем, бо ўрэшце іх знойдзеш. 8-10.03. непатрэбна не панікуй. Не дай сябе ўгаварыць, што штось існуе, чаго няма. Зоркі справакуюць цябе да дыскусій. Не прапусціш ніякіх нагод да памнажэння сваіх ашчаднасцей. Твая сувязь узмоцніцца, будзе час прытуляцца і памаўчаць удваіх. Дома многа абавязкаў. Пасля 10.03. рушаць прафесійныя праекты. 9-13.03. юрыдычныя справы вырашацца па тваёй думцы, без шкоды для іншых.

**(24.09. — 23.10.)** Больш энтузіязму! Будзеш прымушаны змагацца за ўсё. Абдумай, у што варта ангажавацца. Шалі без пары хоць добра выспяцца. Непаразуменні сярод радні і сяброў, будуць розніцы думак паміж пакаленнямі. На працы агорнеш хаос і загоніш калег да работы; будзеш аўтарытэтам нават для кіраўніцтва. 8-10.03. — шукаючы лепшую працу, хутка падай Сі-Ві, дакументы; нечакана можаш заззяць талентам. Вазьміся за сваё здароўе, асабліва правер свой слых.

**(24.10. — 22.11.)** Моцныя эмоцыі і страсці не заўсёды будуць табе памагаць. 8-10.03. будзеш радасны, поўны надзеі і веры ў тое, што ўсё магчымае. З 12.03. (да 16.03.) будзеш у дасканалай форме і дасягнеш значнага поспеху. Не адмаўляйся ад дапамогі. На працы ўзмоцніш сваю пазіцыю. Рабі ўсё што папраўляе настрой, але без «ужывак», асабліва 8-10.03.

**(23.11. — 22.12.)** Жыццё цікавае і поўнае выклікаў. Развінеш зацікаўленні, сустрэнеш новых людзей. 9-13.03. развяжаш праблемы, з якімі раней не даваў сабе рады. 8-10.03. не пазабьлтвайся ў гушчы спекуляцый; не пераймайся драбязой. Амбітныя планы ажыццявіш і заменіш іх на грошы. Не будзь іпахондрыкам.

**(23.12. — 20.01.)** 9-13.03. будзеш дацэнены і станеш узорам. На працы паб'еш канкурэнцыю. Прачнецца ў табе прага падарожжаў. У фірме з 12.03. многа работы, але не рабі яе адзін, разам зможаце пераносіць горы. Будзеш запальчывы, языкасты (нават калі пагрозіць табе звальненне!), але і хутка вырашыш праблемы. Не прастудзіся.

**(21.01. — 19.02.)** Ускладняцца нават простыя справы. Прысвяці больш часу сямейным справам. Цяжка захаваць спакой і ўнутраную раўнавагу. Падтрымлівай партнёра. 8-10.03. радасць ад сустрэч і размоў са сваякамі і сябрамі. У сакавіку не думай пра хуткі поспех і маланкавую кар'еру. Многа дробязнай працы; пільнуйся канкурэнцыі. І барані Бог — салодкае, лёгка можаш патаўсцець (увесь сакавік)!

**(20.02. — 21.03.)** Аптымізм і вера ў сябе памогуць дасягнуць табе кожную мэту. Твой месяц — шчасце табе спрыяе. 9-13.03. прапанова добра платнай працы. З 11.03. можаш ажыццявіць планы, якія здаваліся быць маларэальнымі. 8-10.03. не зрабі неразважнага кроку. Інвестуй у сябе, здабывай новыя ўмеласці, паглыбляй веды. Перад 11.03. не падавай рэкламацый. 8-10.03. нервовы настрой, пухліны, бяссонніца (лішак вады ў арганізме), але хваробы не прадбачваюцца.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**


Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# Тыкоцін

**Дваццаць пяць гадоў таму пакойны ўжо жыхар Нараўкі Мікалай Чарнецкі ўспамінаў мне: „Пад мостам глені, што з Белавежы гналі, перапраўляў. У Белавежы збівалі, каб дзесяць фасметраў было або восем; і ў Нараўцы таксама — звозілі альшыну з Янова і Скупава. І я глені ганяў: два разы ў Тыкоцін хадзіў — праз Сураж, Тапілец, Ванева, Гуру. Гнала многа флісакаў. Тут рабілі дагавор з дзясятнікам з дырэкцыі, а ў Тыкоціне зноў нехта з фірмы прымаў. (...) Будка на гленях была нашым жыллём. Мелі мы з сабою невад, якім рыбу лавілі. Есці на гленях варылі, і начавалі, і сушыліся. Не было дня, каб чалавек у вадзе не памачыўся. Як усё добра выходзіла, то за два тыдні заганялі дрэва з Нараўкі ў Тыкоцін, а як не, то і вошы за каркам завядуцца. З Тыкоціна ў Беласток вярталіся, помню, поездам, а ў Беластоку наймалі фурманку. Фурман па пяць злотаў ад аднаго хацеў. То мы кажам, што за пяць злотаў то можна два літры гарэлкі купіць. І ідзем пяшком. Вязе гандляр гарэлку. Купілі мы, выпілі. Потым яшчэ папраўляліся, пакуль усіх грошай не папрапівалі...”**



■ Нарва каля Тыкоціна; у фоне Свята-Троіцкі касцёл



■ Фрагмент тыкоцінскага кіркута




■ Арэльскі якар

Не прыйшло мне тады ў галаву спытаць суразмоўцу, як справы меліся ў Тыкоціне менавіта, як той Тыкоцін тады выглядаў. Ну, і задумаў цяпер звалачыцца туды, нечага даведацца. Вядома, разлічваць на некага, хто б яшчэ там жыў і помніў той час, было б недарэчнасцю. Але падумалася мне, што зайду ў тамашнюю бібліятэку, а там жа павінна быць нейкая манаграфія, можа нават іншых шмат кніжак пра багатую гісторыю горада; і недзе ў тых кніжках нешта пра колішні тыкоцінскі порт знойдзецца, і пра арэляў таксама...

У бібліятэцы дзве вельмі сімпатычныя бібліятэкаркі развялі з усмешкай рукі, інфармуючы мяне, што і, вядома, шмат кніжак па гісторыі Тыкоціна было напісана, шмат іх захоўвалася ў фондах тамашняй бібліятэкі. Але чытачы пазычалі тыя кнігі і ў бібліятэку не вярталі. І цяпер там няма ніводненькай кніжкі пра тыкоцінскую гісторыю!..

Але некалькі хвілін раней, калі толькі я злез з аўтобуса, пабачыў афішу, якая запрашала на тамашнюю прэзентацыю свежанькага альбома пра прыгажосць Тыкоціна і Падляшша; на жаль, падзея адбылася ў папярэдні вечар. Таго альбома таксама ў бібліятэцы яшчэ не было, яшчэ туды не дайшоў. Але жанчыны параілі мне падацца ў цэнтр культуры, які ладзіў прэзентацыю — там павінны былі той альбом мець...

Падаўся я тады ў той цэнтр культуры. І з такім жа вынікам як у бібліятэцы — альбом расхапілі прысутныя на прэзентацыі, увесь тыраж! Не астаўся ніводзін асобнік... Працаўнік цэнтра запрапанаваў мне іншую кніжку, пра якую сказаў, што нешта пра тыкоцінскі порт у ёй знайду...

Што ж мне было рабіць у такіх абставінах? Павалачыўся крыху па горадзе і падаўся ў Беласток, разлічваючы, што ў Падляшскай ксёнжніцы ўсё ж такі нешта пра мінулае Тыкоціна знайду. У Ксёнжніцы ўхапіўся я за аграмадны трохтомнік пісьмовай спадчыны Зыгмунта Глогера, які жыў у Яжэве, што недалёка Тыкоціна, і шмат пра тыкоцінскія і навакольныя справы пісаў у розныя газеты. Але славутага этнографа транспарт драўніны цераз Тыкоцін не надта цікавіў; Глогер быў уласнікам зямельнага маёнтка і яго цікавілі галоўным чынам цэны сельскагаспадарчых прадуктаў. Пра драўніну таксама ўспамінаў ён мімаходам, напрыклад у 1874 годзе: „Не штогадова такое аграмаднае мноства тапарнай драўніны плывучай з Гродзенскай губерні ў Гданьск пакрывае воды Нарвы як сёлета. Здавалася нам, што з-за так неабсяжнага сплаву цягам звыш дваццаці гадоў павінны вычарпацца распаложаныя над Нарвай і Нараўкай лясы, прыватныя, казённыя і Белавежская пушча. Тым часам, скарыстоўваючы веснавое паўнаводдзе, штодзённа праплываюць побач нас тысячы цалкам прыстойных сасновых калод. Якія ж скарбы захоўваліся ў тых мясцінах! Дзеля сплаву драўніны прыбываюць сюды сотнямі мужыкі з наваколля Кракава і прывіслінскай Галічыны, дзе поўна патрабуючага заробку пралетарыяту, калі сярод заможнага наднарваўскага народу надта ж складана знайсці такіх наймітаў...”

Пра тыкоцінскі рачны порт усё ж такі Глогер напісаў больш: „Тыкоцін быў карысна распаложаны для таварнага абмену, паколькі ляжаў над судаходнай ракой Нарвай, і паколькі тудою з найдаўнейшага часу, яшчэ з XIV стагоддзя, з часу аб’яднання уніяй Польшчы з Літвою, праходзіў няспынны тракт купцоў літоўскіх, маскоўскіх, слуцкіх у Кракаў, Франкфурт, Гданьск, Вроцлаў. Нічога тады дзіўнага, што горад, нягледзячы на частыя ваенныя знішчэнні, хутка ўставаў з руін і рос у заможнасць. Найважнейшым таварам, які вывозілі багата суднамі адсюль у Гданьск у XVIII стагоддзі, было збожжа Браніцкіх і іншых навакольных землеўладальнікаў і шляхты. Гетман Браніцкі меў уласны флот з дваццаці суднаў агульнай грузапад’ёмнасцю пяцідзесяці тысяч карцоў [цэнтнераў, прыблізна — А. В.] збожжа. Флот гетмана Браніцкага меў свой порт у Тыкоціне на Нарве. Камандуючым гэтага флота быў „адмірал” Атоцкі. Адмірал той асабіста праводзіў у Гданьску гандлёвыя здзелкі са збожжам Браніцкага, прывозячы з Гданьска, з аднаго транспарту, каля дзесяці тысяч дукатаў у касу Браніцкага. (...) Шмат тыкоцінскіх мяшчан займалася гандлем збожжам у пачатку XVIII стагоддзя, калі збожжа было ў цане. Магістрат горада Тыкоціна насцярожваў мяшчан каб не выкуплялі збожжа і не вывозілі навонкі, каб у горадзе не было дарагавізны. Таксама жыдоўскія камерсанты займаліся гандлем збожжам яшчэ ў пачатку XVIII стагоддзя, калі пасля Трэцяй паўночнай вайны збожжа было дарагое. У гарадской кнізе ад 14 чэрвеня 1720 года ёсць заўвага, што ў 1710 годзе збожжа на рынку ў Тыкоціне было дарагое з прычыны выкупу яго і вывазу ў Мазовію жыдоўскімі купцамі. Гандлявалі рознымі таварамі, якія куплялі пры нагодзе продажу збожжа ў Гданьску. Куплялі і прывозілі з Гданьска ў Тыкоцін спецыі, тытунь, сукно, шоўк. Аптовы гандаль тымі таварамі быў верагодна ў руках хрысціян, так як у Беластоку, затое рознічны гандаль быў у Тыкоціне апанаваны жыдоўскімі купцамі. (...) З Тыкоціна ішлі ў Гданьск таксама плыты драўніны, а гандаль той быў таксама ў жыдоўскіх руках. Хрысціянскае купецтва ў Тыкоціне ў палове XVIII стагоддзя было шматлікае, мела свой асобны цэх і цэхавую харугву. Запар з гандлем развілася тут і фінансава-крэдытная ўстанова, якую вялі згуртаваныя пры тыкоцінскім кагале жыды, кіраваная праўленнем таго ж кагала. Укладвалі ў тую ўстанову вялікія грашовыя сумы. Укладвалі навакольныя землеўладальнікі і пробашчы на невялікі працэнт...”

Тыкоцінскі кагал быў магутнай арганізацыяй. Яўрэйская энцыклапедыя Брокхаўза і Эфрана з пачатку XX стагоддзя так згадвала пра Тыкоцін: „Яўрэйская абшчына ў Тыкоціне паўстала ў 1522 годзе, калі троцкі ваявода Альбрэхт Гаштольд дазволіў дзевяці яўрэям з Гродна пасяліцца ў яголным горадзе Тыкоціне, дзе ім была выдзелена плошча на г.зв. Качарове (за мостам) для пабудовы дамоў; на суседнім астраўку было дазволена пабудаваць сінагогу і вызначана месца для могілак „за садамі”; ваявода аб’явіў новых пасяленцаў вольнымі цягам трох гадоў ад усялякіх падаткаў і надаў ім гандлёвыя льготы. (...) У XVII стагоддзі яўрэйская абшчына іграла асаблівую ролю, будучы яблыкам разладу між Каронай і Літвою. Тыкоцін непасрэдна змагаўся з Гродням за пананаванне над абшчынамі Заблудава, Харошчы і Гарадка. Ваад [цэнтральны орган яўрэйскага абшчыннага самакіравання ў Рэчы Паспалітай; дзейнічаў з паловы XVI да паловы XVIII стагоддзя — А. В.], які адбываўся ў 1621 годзе ў Любліне, вырашыў гэтую спрэчку ў карысць Тыкоціна. (...) Тыкоцін і Гродна прадаўжалі далей спрачацца за юрысдыкцыю над Заблудавам, пакуль на кірмашы ў Любліне ў 1654 годзе вырашана, што ва ўсіх грамадскіх справах абшчына Заблудава падпарадкоўваецца юрысдыкцыі „свайго галоўнага” суда ў Тыкоціне, апрача спраў арэнды і кагальных выбараў падлеглых гродзенскаму кагалу. (...) Тыкоцінскі кагал меў права прымусова высяляць з мясцовасцей Падляшша ўсіх жыдоў, пасяліўшыхся там без гэтага кагала дазволу. З 1678 года Тыкоцін пасылаў пастаяннага прадстаўніка на пасяджэнні ваада на роўных правах з прадстаўнікамі Кракава, Львова і іншых буйных абшчын. У сферу ўплываў Тыкоціна ўваходзіў, між іншымі, сямятыцкі кагал...” У 1856 годзе пражывала ў Тыкоціне 1491 хрысціянін і 3456 яўрэяў; у 1897 годзе на агульную колькасць 4212 жыхароў горада 2485 было яўрэямі.

Такім вось акружным шляхам удалося мне заглянуць у незвычайную гісторыю невялікага цяпер падбеластоцкага гарадка Тыкоціна, які калісь быў у некаторых справах нараўне з Кракавам і Львовам. А што ж прычынілася да такога „прызямлення” Тыкоціна, які даўней лунаў у высокіх вярхах? Прычынілася да гэтага пракладка берасцейска-граеўскай чыгункі, дванаццаць кіламетраў ад Тыкоціна, якая павезла збожжа па сваіх рэйках проста ў каралевецкі порт. А плыты не заўсёды падыходзілі размерам у чыгуначныя вагоны, таму ганялі іх па Нарве яшчэ да Другой сусветнай вайны.

Другая сусветная вайна была чарговым ударам па Тыкоціне. У канцы жніўня 1941 года гітлераўцы расстралялі пад недалёкай вёскай Лапуховам каля дзвюх з паловай тысяч тыкоцінскіх жыдоў; выжылі нямногія. А ў канцы мая 1944 года тамашнія акаўскія партызаны зладзілі каля Яжэва замах на гаўляйтэра Усходняй Прусіі Эрыха Коха, якому падлягала і Беластоцкая акупацыйная акруга. Самому Коху нічога не сталася, але загінуў камендант тыкоцінскага пастарунка нямецкіх жандараў. У парадку рэпрэсіі гітлераўцы вывезлі ў канцлагеры каля чатырохсот тамашніх жыхароў, выжылі нямногія. Вось пра гэта і была тая кніга, атрыманая мною ў тамашнім цэнтры культуры; пра порт там згадкі не было...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960